# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 40 (710) 5 кастрычніка 1969 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## ЗАЦВЕРДЖАННЕ ПАГАДНЕННЯ

16 верасня ў Семяноўцы на Гайнаўшчыне ў клубе селяніна адбылося пасяджэнне двух прэзідыумаў — ГП БГКТ і Ваяводскага праўлення ЗМВ. На парадку дня супольнага пасяджэння быў адзін пункт — зацверджанне праекта дагавору аб супрацоўніцтве БГКТ і ЗМВ. Апрача членаў прэзідыума абодвух арганізацый у пасяджэнні ўзялі ўдзел: старшыня нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце ПАРП — Збігнеў Дамброўскі, прадстаўнік КВ ПАРП да спраў моладзі Пятро Антанюк і старшыня ГРН у Семяноўцы Міхась Васільчук.

Асновай супрацоўніцтва ЗМВ і БГКТ на Беласточчыне з'яўляецца збежнасць многіх праграмных установак і дзейнасць у тых самых асяроддзях, а таксама супольныя ініцыятывы нашых гурткоў. Гаварыў аб гэтым сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк, прыводзячы прыклады з Вілінава, Малінік, Крываціч, Арэшкава, Новага Вострава, Слоі і іншых вёсак, дзе гурткі БГКТ і ЗМВ супольна працавалі пры рамонце дарог і святліц, арганізавалі вечарыны і фестыны, харавыя калектывы і драмгурткі.

Намеснік старшыні ВП ЗМВ Ежы Гурскі прачытаў змест пагаднення, а пасля паінфармаваў аб тым, што ў Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Сямяціцкім, Сакольскім і часткова ў Дуброўскім паветах, у радах ЗМВ знаходзіцца каля 7 тысяч беларускай моладзі і што многія юнакі і дзяўчаты знаходзяцца ва ўладах ЗМВ пачынаючы ад гуртка і канчаючы ВП ЗМВ. Усе яны добра працуюць і дапамагаюць у дзейнасці БГКТ. Сакратар ВП ЗМВ Вечаслаў Садоўскі прапанаваў, каб БГКТ і ЗМВ супольна арганізавалі ў грамадзе Юшкаў Груд «скансен» — а член прэзідыума ВП ЗМВ Станіслаў Какарэка прапанаваў, каб абедзве арганізацыі супольна звярнулі ўвагу на чытальніцтва і асвету дарослых, асабліва сельскагаспадарчую асвету.

Старшыня нацыянальнай камісіі пры КВ ПАРП Збігнеў Дамброўскі высока ацаніў ініцыятыву падпісання такога пагаднення і раіў апрацаваць і падпісаць такія пагадненні з іншымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі.

У дыскусіі над праектам пагаднення забіралі яшчэ голас Мікола Матэйчык, Мікола Гайдук, Мікола Самоцік, Міхась Васільчук. Падсумоўваў дыскусію старшыня ВП ЗМВ Казімеж Пятроўскі. Вёў пасяджэнне старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі.

Змест пагаднення друкуем у сённяшнім нумары «Нівы».

## ПАСЯДЖЭННЕ ВЫДАВЕЦКАЙ КАМІСІІ

18 верасня адбылося пасяджэнне выдавецкай камісіі ГП. На старшыню камісіі прысутныя выбралі галоўнага рэдактара «Нівы» Георгія Валкавыцкага. Потым Георгі Валкавыцкі паінфармаваў аб падрыхтоўцы ілюстраванай кніжкі (ён яе рэдагуе) пад загалоўкам «Беларусы ў Народнай Польшчы».

Далей абмяркоўваўся зборнік вершаў Івана Чыквіна, які рыхтуецца да друку. Рэдактарам гэтага зборніка з'яўляецца журналіст «Нівы» — Яніна Чэрнякевіч.

## ПАТРЭБНЫЯ МАНДАЛІНІСТЫ

Пры мастацкім Гайнаўскім калектыве БГКТ будзе ўтворана 10-асабовая група мандалістаў. У сувязі з гэтым патрэбныя людзі, якія маглі б вучыцца там іграць і выступаць разам з калектывам. Да харавой групы таксама патрэбныя людзі з добрымі галасамі. Зацікаўленых гэтай справай просім звяртацца ў Гайнаўскі аддзел БГКТ.

(мх)



Сцяг ад грамадскасці Сакольскага павета мясцовай камэндзе міліцыі.




**Składamy serdeczne podziękowanie Milicji Obywatelskiej Posterunku Nowinka k/Augustowa i Komendzie Powiatowej w Augustowie za szybką i skuteczną interwencję w odzyskaniu skradzionego sprzętu fotograficznego i innych przedmiotów...**

**dr Tadeusz Waluga**
**mgr inż. Jerzy Waluga**

У гэтым годзе ўжо дваццаць пяты раз адзначаем гадавіну паклікання да жыцця органаў міліцыі і службы бяспекі. Сёлеташняе святкаванне ўрачыстае, годнае тых, чый дзень адзначаецца. Вельмі вымоўным з'яўляецца лозунг, пад якім адбываюцца сёлеташнія святкаванні: «Міліцыя грамадству і з грамадствам».

На штодзень мы неяк прызвычаіліся гаварыць і думаць аб людзях у міліцыйных мундзірах як аб тых, якія накладаюць штрафы, кантралююць, «чапляюцца». І толькі тады, калі хто-небудзь з нас знойдзецца ў небяспечнай сітуацыі ці астанецца пакрыўджаным, міліцыянер з'яўляецца найдаражэйшым і найлепшым чалавекам. Але міліцыянеры, працаўнікі службы бяспекі, не хочуць быць ізаляванымі ад грамадства, хочуць, каб іх мундзір лічылі так у народзе, як адзенне рабочага. Прыглядзьцеся іх пачынанням.

Як гарнякі і металургі, сяляне і чыгуначнікі, міліцыянеры вітаюць кожнае сваё свята грамадскімі чынамі. У праграмах святкаванняў 25-годдзя МО і СБ у міліцыянераў Беластоцкага ваяводства віднеюць на першым месцы абавязацельствы ў карысць данага ася-

Працяг на стар. 4

# МЕЛІЯРАЦЫЯ І ПРАБЛЕМЫ ВАДЫ

Тэрыторыя Беластоцкага ваяводства налічвае 370 азёраў, 300 сажалак і 34 ракі. Для лепшай ілюстрацыі скажам, што агульная паверхня вады 32.630 гектараў, з чаго рэкі займаюць 2.823 га, азёры 27.527 га, а сажалкі 2.800 га.

У мінулым Беласточчына ніколі не наракала на недахоп вады. Праведзеныя меліярацыі далі шмат добрага жывёлагадоўлі, а ў агульным усучаснілі сельскую гаспадарку. Былыя балоты Візны зараз даюць самы дабраякасны корм. Дрэнаваныя палі Райска, Зубава ці Чыжоў пачалі лепш радзіць. Планы меліярацыі на 1971—1975 гады аграмадныя. **На меліярацыю** плануецца выдаткаваць **3 мільярды 18 мільёнаў злотых.** Меліярацыяй цешацца і дамагаюцца сяляне амаль на кожным сходзе, пры кожнай сустрэчы.

## АЛЕ...

Не ўсе ведаюць, што меліярацыя мае свае і адмоўныя бакі. Адным з іх ёсць сістэматычнае абніжэнне люстра вады ў рэках і азёрах, а часта здараецца таксама абніжэнне «грунтовай» вады. Вынікі гэтага асабліва былі відавочны ў часе сёлеташняй пасухі. Дэфіцыт вады ў далінах меліяраваных рэк аграмадны. Для прыкладу скажам, што ў даліне ракі Нарва, вышэй вусця Бебжы, недахоп вады сягае 27,5 млн. кубічных метраў, у даліне Супраслі — 9,0 млн. куб. метраў, а ў даліне Нурца — 30,0 млн. куб. метраў. Водны баланс для т.зв. паверхнёвай вады адмоўны. Недахоп вады для зялёных угоддзяў у басейне ракі Нарва сягае 231,7 млн. куб. м. Гэтыя недахопы асабліва адчуваюцца ў час вегетацыі раслін г. зн. у месяцах май—жнівень.

## ЧАМУ ТАК?

Можна б гэта коратка акрэсліць так. Першапачаткова, калі праектавалася меліярацыю, бачылася ваду, як зло, якое трэба выкараніць. Планаваліся і выконваліся меліярацыі толькі і выключна адвадняючыя. Першапачаткова гэта было карысным, і сенажаці былі даскаIалыя. Зараз у некаторых раёнах гаспадары наракаюць, што за суха і трава высыхае.

Здаецца, што генеральнай прычынай ёсць той факт, што праектанты меліярацыі не бяруць пад увагу, пры праектаванні, асноўнага параметру, якім ёсць **вада.** Не бярэцца абсалютна пад увагу спраў звязаных з краявідам асяроддзя, з прыродай, турызмам. Агульнымі прыкладамі можа быць тое, што праектуючы меліярацыі не бярэцца пад увагу воднага птаства ці воднай звярыны, як напр. бабры, а таксама спраў забруднення вады. Усевядомым ёсць, што пры зменшанай колькасці вады паменшваецца разбаўленне розных сцекаў. Даследчыкі пацвердзілі, што рэгуляцыя р. Нараўка дала нам сум-

Працяг на стар. 4



Коні. Фота Цаф — Сянько

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ

## ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ У ФРГ

Ужо ведаем вынікі выбараў у заходнегерманскі Бундэстаг, якія адбыліся ў мінулую нядзелю. Фактычна выбары не прынеслі перамогі ніводнай са змагаючыхся найвялікшых партый ні ЦДУ/ЦСУ ні СПД. Аднак міма вынікаў распісаных анкет спецыяльнымі інстытутамі даследванняў грамадскай думкі, якія яшчэ ў нядзелю сцвердзілі, што найбольш галасоў атрымае СПД, найбольш г. зн. 46,1% галасоў і 242 мандаты атрымала ЦДУ/ЦСУ. СПД атрымала 42,7% галасоў пабольшваючы колькасць сваіх прадстаўнікоў у Бундэстагу на 22 і такім чынам мае яна 224 мандаты. Партыя т.зв. вольных дэмакратаў ФДП атрымала 5,8% галасоў, атрымліваючы 30 мандатаў у заходнегерманскім парламенце. Вольныя дэмакраты ў параўнанні да выбараў з 1965 года атрымалі на 19 мандатаў менш. Міма, што неафашысцкая партыя НПД у сёлеташніх выбарах атрымала толькі 4,3% галасоў і праз тэта не ўвойдзе ў склад Бундэстагу, характэрным з'яўляецца тое, што галасавала на яе 1.400 тыс. немцаў, а гэта абазначае ў два разы больш, чым у папярэдніх выбарах.

Так ці інакш ніводная з заходнегерманскіх партый не атрымала абсалютнай большасці, і таму новы ўрад ФРГ павінна скласці кааліцыя прынамсі дзвюх партый. Згодна са сцверджаннямі В. Брандта шэфа СПД, яго партыя не згодзіцца на працягванне кааліцыі з хадэкамі ЦДУ/ЦСУ.

Такім чынам асноўная роля прыпадае тут вольным дэмакратам з ФДП. У залежнасці ад таго, да каго (да ЦДУ/ЦСУ ці да СПД) яны прыхіляцца, будзе залежаць, ці сацыял-дэмакрат Брандт стане на чале новага заходнегерманскага парламента. У выніку кааліцыі СПД і ФДП абедзве партыі будуць мець перавагу 12 галасоў у Бундэстагу, а шэф партыі ФДП аўтаматычна стаўся б віцэ-канцлерам урада.

Бліжэйшыя дні пакажуць развязку гэтай складанай сітуацыі.

## КАДРАВЫЯ ЗМЕНЫ Ў ЧЭХАСЛАВАКІІ

У мінулым тыдні адбыўся Пленум ЦК КПЧ. Пленум пазнаёміўся з дакладам I сакратара ЦК Г. Гусака аб палітычнай сітуацыі ў КПЧ і ў краіне і прыняў пастановы ў кадравых і арганізацыйных справах.

Пленум ЦК КПЧ пастанавіў адклікаць са свайго складу 7 асоб, а ў тым ліку Ю. Смркоўскага, забавязваючы дэпутатаў-камуністаў, каб адклікалі яго з пасады ў парламенце. ЦК выключыў са свайго складу і з партыі 3 асобы, 20 членаў ЦК адыйшло са складу ЦК на іх уласную просьбу.

Пленум ЦК КПЧ адклікаў А. Дубчэка са складу члена Прэзідыума ЦК КПЧ і забавязаў камуністаў-дэпутатаў, каб адклікалі яго з пасады дэпутата ў парламенце.

## З БАЛІВІІ

У Балівіі адбыўся дзяржаўны пераварот. Новы ўрад намераны правесці нацыяналізацыю некаторых прадпрыемстваў.

А.К.

 БССР

## ГЕРМАНІІ

Мінск наведала дэлегацыя Цэнтральнай рэвізійнай камісіі Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі на чале з Куртам Зейбітам, старшынёй камісіі. Госці мелі гутарку ў ЦК Кампартыі Беларусі. Яны азнаёміліся з вопытам работы Рэвізійнай камісіі Кампартыі Беларусі. Нямецкія камуністы агледзелі выдатныя мясціны беларускай сталіцы. У калгасе «Новы быт» Мінскага раёна члены дэлегацыі агледзелі забудовы, гутарылі з калгаснікамі.

## МІНІСТРАЎ

Савет Міністраў Беларускай ССР і Беларускі рэспубліканскі савет прафесіянальных саюзаў разгледзелі вынікі сацыялістычнага спаборніцтва абласцей, гарадоў і раёнаў за паспяховае выкананне планаў і сацыялістычных абавязацельстваў па жыллёваму, культурна-бытавому будаўніцтву, добраўпарадкаванню і паляпшэнню санітарнага стану гарадоў, пасёлкаў гарадскога тыпу і сельскіх населеных пунктаў за першае паўгоддзе 1969 года.

Адзначана, што абласныя кіраўніцтвы адміністрацыі і прафсаюзаў, многія гарадскія і адміністрацыйныя кіраўніцтвы слаба разгарнулі спаборніцтва за паспяховае выкананне планаў. Запрапанавана прыняць неадкладныя меры па ліквідацыі недахопаў.

## ПАСТАЯННАЙ

Адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па прамысловасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб стане работы па эканоміі і ашчаднасці на прадпрыемствах Міністэрства харчовай прамысловасці Беларускай ССР. За добрыя вынікі па эканоміі і ашчаднасці камісія пахваліла м. ін Гродзенскую тытунёвую фабрыку, Лідскі камбінат харчовых канцэнтратаў, Глыбоцкі кансервавы завод.

## МІНСКА

Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову аб мерах па далейшаму паляпшэнню арганізацыі адпачынку працоўных сталічнага горада Мінска. У ёй адзначаецца, што ў рабоце гарадскіх уладаў па арганізацыі адпачынку працоўных маюць месца істотныя недахопы. Узровень работы многіх устаноў культуры, прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, камунальна-бытавога абслугоўвання, чыгуначнага і аўтамабільнага транспарту, а таксама спартыўных арганізацый не адпавядае ўзрослым патрэбам.

## «СЫНЫ»

На Слонімшчыне работнікі кінастудыі «Беларусьфільм» здымаюць кінакарціну «Сыны». У аснову новай стужкі лягла кніжка «Сыны ідуць у бой», якая з'яўляецца працягам рамана «Вайна пад стрэхамі». Сцэнарый напісаны аўтарам кніжкі доктарам філалагічных навук, беларускім пісьменнікам А. Адамовічам. Рэжысёр-пастаноўшчык карціны — В. Тураў, апэратар С. Пятроўскі.

Фільм будзе зроблены да канца года.

(ся)

 ПОЛЬШЧА

## «ОДРА — НЫСА 69»

Згодна з планам вучэнняў Аб'яднаных узброеных сіл дзяржаў Варшаўскага дагавору на тэрыторыі Польшчы адбыліся манеўры саюзных армій, у якіх прынялі ўдзел войскі Савецкага Саюза, Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Польшчы. Мэтай манеўраў было падсумаванне дасягненняў у галіне ваеннага абучэння на працягу 1969 года, а таксама паглыбленне дружбы і ваеннага братэрства паміж саюзнымі арміямі і ўдасканальванне іх баявога супрацоўніцтва. Манеўры названы: «Одра—Ныса 69», а кіраваў імі міністр абароны ПНР Войцех Ярузэльскі. Урачыстае заканчэнне манеўраў адбылося 28 верасня ў Вроцлаве. Напярэдадні заканчэння на вроцлаўскім стадыёне адбыўся ўрачысты мітынг. З прамовай на мітынгу выступіў член Палітбюро партыі, сакратар ЦК Рышард Стшэлецкі.

## ЯШЧЭ АДНО

Яшчэ адно месца масавага гітлераўскага злачынства знойдзена апошнім часам у мясцовасці Гусінкі каля Белай Падляшскай. Знойдзена там вялікая магіла, у якой гітлераўцы пахавалі звыш дзесяці тысяч расстраляных савецкіх палонных салдат.

## НАРАДА

У Сопаце адбылася 3-дзённая нарада культурна-асветнага актыву прафсаюзаў і Саюза сацыялістычнай моладзі прысвечаная ідэйна-выхаваўчай працы ў 1970 годзе. З прамовай выступіў сакратар Цэнтральнай рады прафсаюзаў Веслаў Адамскі, які сцвердзіў, што ў апошнім перыядзе наступіла значнае ажыўленне ідэйнай і культурна-асветнай дзейнасці прафсаюзаў.

## ГАНДАЛЬ

Вясковы гандаль у гэтым годзе падрыхтаваўся старанна да асенне-зімовага перыяду. Забеспячэнне ў вопратку ўзрасце ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 14 працэнтаў. Вясковыя крамы атрымаюць на каля 190 тысяч штук больш цёплай вопраткі, на 37 тысяч больш мужчынскіх касцюмаў і на 380 тысяч больш чымсьці ў мінулым годзе мужчынскіх кашуль.

## ШАХЦЁРАМ

У шахце «Генерал Завадскі», у якой два месяцы таму назад здарылася памятная катастрофа закончаная шчаслівым адратаваннем засыпаных шахцёраў, адбыўся ўрачысты адкрыты партыйны сход. Прыняў у ім між іншым удзел член Палітбюро партыі I сакратар Ваяводскага камітэта ў Катавіцах — Эдвард Герак і старшыня Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай — Ежы Зентэк. Падчас урачыстасці заслужаныя ў акцыі геройскія шахцёры атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

## ЮЛЬЯН ГАРАДЭЦКІ

27 верасня памёр ва ўзросце 62 гадоў Юльян Гарадэцкі заслужаны дзеяч сялянскага руху, член Галоўнага Камітэта Аб'яднанай сялянскай партыі (ЗСЛь), пасол у сейм і старшыня сеймовай камісіі замежных спраў.

(вп)

 ВАЯВОДСТВА

## МІЛІЦЭЙСКАЕ СВЯТА

Працаўнікі грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі Беластоцкага ваяводства ўрачыста адзначалі 25-ую гадавіну сваёй ахвярнай службы. З гэтай нагоды адбылося ў беластоцкім тэатры ўрачыстае пасяджэнне, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі цэнтральных і ваяводскіх улад, а сярод іх — З. Новак і А. Лашэвіч.

## СЦЯГ

Грамадскасць Гайнаўскага павета абсталявала сцяг для Павятовай Камендатуры МО ў Гайнаўцы. Сцяг гэты быў уручаны 28 верасня г.г. з нагоды міліцэйскага свята. З'яўляецца ён сімвалам еднасці міліцыі і грамадства.

## УЗНАГАРОДЖАНЫЯ

Рада Дзяржавы Польскай Народнай Рэспублікі высока ацаніла намаганні сельскагаспадарчай службы Беластоцкага ваяводства накіраваныя на павышэнне ўзроўню сельскай гаспадаркі. Найбольш ахвярныя сярод іх былі нядаўна ўзнагароджаныя. Для трох дзеячаў прысвоена Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы, 13 асоб узнагароджана Залатымі, а 29 асоб — Сярэбранымі Крыжамі Заслугі.

## БІБЛІЯТЭКА

Ваяводская і гарадская бібліятэкі ў Беластоку адзначалі 25-цігоддзе свайго пасляваеннага існавання. Распачалі яны сваю дзейнасць пад канец лета 1944 года. Першымі працаўнікамі беластоцкай бібліятэкі былі Ванда Пачобут, Гэлена Кужына і Ядвіга Сушка. У 1945 годзе ў бібліятэцы знаходзілася ледзь адна тысяча кніжак і карысталася з яе паслуг каля 3 тысяч чытачоў. Зараз на полках бібліятэкі можна налічыць звыш 250 тысяч тамоў, а чытачоў — амаль 270 тысяч.

## ГОСЦІ АД НІЛА

У фастаўскім камбінаце ў Беластоку амаль месяц часу прабывала 6 інжынераў і тэхнікаў з Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі. Егіпецкія спецыялісты па тэкстыльнай прамысловасці знаёміліся з арганізацыяй працы і тэхналагічнымі працэсамі.

## ЮБІЛЕЙ

Тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску ўрачыста адзначаў 25-цігоддзе свайго існавання. З гэтай нагоды 27 і 28 верасня г.г. адбыўся ў тэхнікуме з'езд яго выпускнікоў. Бельскі тэхнікум закончыла амаль 800 спецыялістаў па сельскагаспадарчым рахункаводстве.

## МУЗЕЙ

У Бельску, дзе ў час акупацыі знаходзілася гітлераўская катавальня, адкрыта музей, які адлюстроўвае зверствы гітлераўцаў і паказвае прылады, пры дапамозе якіх мучылі яны людзей.

(вр)




**Niedziela, 5 października**

7.55 Program dnia. 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Przechowywanie okopowych". 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 „Na rzece Moskwie" — film. 9.00 „Oblężenie" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.00 Dla młodych widzów: „Początkujący i wybitni" (Berlin). 11.00 „Niewidzialna ręka" — film pol. 11.30 „Skarby Leningradu". 12.00 Dziennik. 12.15 Centralne Zawody Sportów Obronnych LOK. 13.15 „Bawcie się z nami". 14.00 „W starym kinie". 15.00 „Przemiany". 15.30 Dla dzieci: TV Teatr Lalek. 16.20 „Szlakami zabytków". 16.40 Teatr Telewizji na świecie: (BBC) W. Szekspir — „Jak wam się podoba" w wyk. Zespołu Królewskiego Teatru Szekspirowskiego ze Stradfordu. 19.00 „Ludzie i zdarzenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Jeden przeciw wszystkim" — film fab. USA. 21.35 PKF. 21.45 Songi i ballady Bertolda Brehta w wyk. Giselli May. 22.25 „Klub prof. Tutki" — film TVP. 22.40 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 6 października**

14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.45 „Echo stadionu". 18.05 „Laser" — film dok. NRD. 18.20 „Dawid" — film węg. 18.40 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: G. Zapolska — „Panna Maliczewska". 21.45 „Międzynarodowe sukcesy polskiej architektury". 22.10 Dziennik.

**Wtorek, 7 października**

8.55 Defilada wojskowa z okazji 20-lecia NRD. Transmisja z Berlina. 10.00 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — M. Gorki „Jegor Bułyczow i inni". 11.35 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przechowywanie i konserwacja pasz w gospodarstwie rolnym". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa.

**Dzień Telewizji NRD w Telewizji Polskiej**

16.35 Zapowiedź programu dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 — Film dla dzieci. 17.25 Telewizyjny Ekran Młodych. 17.55 „NRD" — teleturniej. 18.45 „Nasz morski sąsiad" — reportaż. 19.05 Rozmowa z Ambasadorem NRD. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Klęski i nadzieje" — film fab. NRD cz. IV. 21.40 Program rozrywkowy NRD 22.20 Zakończenie Dnia NRD. 22.25 Dziennik.

**Środa, 8 października**

10.00 „Dramat sumienia" — film („Ścigany"). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Maszyny budowlane". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Przewodniczący Rady przyjmuje we wtorki..." 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 „Śladami Lenina" (Moskwa). 17.00 Dziennik. 17.10 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.45 Magazyn ITP. 17.55 „Wyprawy" — film. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Spotkania z przyrodą". 19.05 „Kilka słów o programie TV". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dramat sumienia" — film („Ścigany"). 20.55 „Światowid". 21.25 PKF. 21.35 „O muzyce mówią..." 22.10 Dziennik.

**Czwartek, 9 października**

8.15 „Matematyka w szkole": „Zastosowanie algebry wektorów do zagadnień miarowych". 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „O wolność społeczną i narodową". 10.25 Przerwa. 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Chemia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Ekran z bratkiem". 17.55 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.40 Koncert muzyki kameralnej „Wczoraj i dziś". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Sensacji: M. Reniak — „Niebezpieczne ścieżki" cz. III. 21.10 „Horyzonty". 21.40 „List Jerome" — nowela film. franc.

**Piątek, 10 października**

10.00 „Klęski i nadzieje" — film fab. NRD cz. IV. 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — „Malarstwo" cz. II. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. II i III lic.) Przysposobienie obronne — „Zachowanie się ludności w okresie zagrożenia alarmu i napadu". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Aula — sesja pierwsza". 17.25 „Duch z Wyspy Mnicha" — film. 17.40 „Nie tylko dla pań". 18.00 TV Kurier Mazowiecki. 18.15 „Po prostu żołnierze" — film dok. 18.30 Wszechnica TV: „Nasi uczeni" — prof. dr Bohdan Paszkowski. 19.00 Tygodnik aktualności satyrycznych: „Przepraszamy za usterki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Reportaż. 20.25 „Droga nad morzem" — film fab. bułg. 21.30 „Lektury współczesne". 21.40 „W cieniu młodych drzew". 22.10 Dziennik.

**Sobota, 11 października**

10.00 „Droga nad morzem" — film bułg. 11.00 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Epoka lodowa w Polsce". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Postawa". 13.15 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 TV Kurs Rolniczy: „Jesienne zabiegi agrotechniczne". 15.00 Program tygodnia. 15.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Teatr Młodego Widza: M. Nowakowski i Z. Wróblewski — „Ochotniczka". 17.50 „Poligon". 18.40 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „Z wizytą u Was" — program rozrywkowy (transmisja z Pałacu Kultury w Dąbrowie Górniczej). 21.10 Jubileusz 50-lecia Teatru Wielkiego im. St. Moniuszki w Poznaniu. 22.10 Dziennik. 22.20 Wiadomości sportowe. 22.30 „Miłostki bez miłości" — film fab. włoski.




**Piątek, 3 października**

8.00 Nowiny. 8.15 „Cuda przyrody". 8.30 Spektakl TV. 9.20 „W eterze „Młodość". 9.50 Koncert laureatów wszechzwiązkowego festiwalu twórczości amatorskiej. 14.45 Program dnia. 14.50 Dla uczniów. 15.20 „Panorama nowin". 15.30 „Kronika pięciolatki". 16.00 „Sztafeta nowin". 16.30 Wieczór uroczysty poświęcony 100-leciu urodzin klasyka ormiańskiej literatury A. Tumaniana. 20.00 TV barwna.

**Sobota, 4 października**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 TV klub filmowy. 9.30 „Początek gwiezdnej drogi". 10.00 Koncert życzeń. 10.40 Przegląd międzynarodowy. 11.00 Uniwersytet TV 12.30 Na Dzień nauczyciela. 13.30 Nowiny. 13.45 „Białe i czarne". 14.00 Dla żołnierzy. 14.45 TV barwna. 16.00 „Opowiadania o klasie robotniczej". 16.30 Almanach TV. 17.30 Filmoteka muzyczna. 18.20 „Czerwone diabły". Film fab. 19.30 „Świat socjalizmu". 20.00 XVI mistrzostwa Europy w koszykówce. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 5 października**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „Zdrowie". 9.00 TV barwna. 11.00 Dziś Dzień nauczyciela. 11.30 „Skarby Leningradu". 12.00 TV barwna. 13.00 Klub filmowy. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 „Godzina wiejska". 15.30 Dla uczniów. 16.00 III międzynarodowy festiwal estradowy w Soczi. 18.15 „Siedem dni". 19.00 TV barwna. 21.00 XVI mistrzostwa Europy w koszykówce.




## НОВАЕ ПРОЗВІШЧА Ў ПАЭЗІІ

Выдавецтва «Беларусь», што ў Мінску, выпусціла ў гэтым годзе ў свет першую кнігу вершаў Вольгі Іпатавай. «Паэтэса, — гаворыцца ад выдавецтва ў паметцы, — нарадзілася ў 1945 годзе ў гарадку Мір, Гродзенскай вобласці. Страціўшы бацькоў, яна выхоўвалася ў дзіцячым доме ў Гродне. У 1961 годзе закончыла сярэднюю школу, затым філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Цяпер працуе рэдактарам на Гродзенскай студыі тэлебачання.

Кніга вершаў называецца «Раніца» — так, як пачатак кожнага, і добра і дрэннага, дня, як пачатак кожнай творчасці. І хоць дзень не трэба хваліць зранку, то аб творчасці В. Іпатавай ёсць што сказаць добрага. Перш за ўсё па сваёй тэматыцы і з фармальнага боку «Раніца» поўнасцю ўпісана ў традыцыю беларускай паэзіі. Дарэмна тут шукаць замыславатыя думкі ці фармальныя пошукі — В. Іпатава падкупае чытача шчырасцю сваёй аўтабіяграфіі. А факты яе жыцця не зайздросныя, а багатыя. І паэзія для яе гэта не танцавальны вечар, гэта дальнейшая барацьба за поўнае, шчаслівае чалавечае існаванне. Таму яна піша:

«Хаджу штодзень я каля паэзіі,
А лічу, што іду ля салёнай вады»
(«Загарэлыя, вясёлыя»)

Уяўленне непаўнаты пражытага дзяцінства, самых светлых дзён без бацькоў, як дзевятая хваля вяртаецца ва ўспамінах і залівае горыччу дні жыцця дарослага чалавека, становіцца тэмай многіх яе вершаў.

«Матчын голас уладны пачуўшы
Дзеці з шумам бягуць дамоў,
І, ў халодную прызбу уткнуўшыся,
Горка, горка плачу я зноў»
(«Як ты колешся, слова, сіротка»)

Або аб бацьку:

«Не пабачыў ніколі дачушку,
На руках яе не пагушкаў
...Нібы камень, падушка...»
(«За акном зацвітаюць вяргіні»)

А дарастаючай дзяўчыне, а потым жанчыне, асабліва цяжка жыць адной, з нагрузкай мінулага і сённяшняга, калі няма ў руках іншай зброі, як толькі слёзы і роздумы. Паяўляецца верш з вымоўным пачаткам «Мужчыны ніколі не плачуць» ці такі ж радок у вершы «Мачыха» — «О барацьба адвечна за мужчыну».

Але В. Іпатава не пагружаецца ў адчаі, у роспач, у безнадзейнасць. Кніга напісана светлымі фарбамі, бо жыццё ідзе наперад — паяўляецца дружба, каханне, сталасць; неўзабаве, непрыкметна дзеці становяцца бацькамі, а разам з гэтым старыя раны хутчэй зажываюць. Таму ў кнізе многа радкоў аб беларускай прыродзе, якая памагае ясней зразумець чалавеку цану і сэнс яго жыцця.

І за тое, што цану жыццю В. Іпатава выстаўляе найбольшую, хочацца ёй падзякаваць.

**І. Чыквін**

## Каб жаданне явай

**Пройдземся мяжою**
**сярод праўды і жарту**
**наабапал красу пазбіраем**
**у далоні дабра**
**і як Зеўс**
**залатым дажджом Данаю**
**заплоднім нашае жаданне**
**у зняволенні мараў**

**Яша Бурш**



# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 130

## Паляванне



Бачыш, след крывавы пакідае паляўнічы...
Восень, у лясах тваіх так маляўніча!

Хвалі смерці, косці смеху, выстралы ў вочы
І уцёкі напрашчкі пад зубіла ночы,

Крокі звера, чалавека на імху вільготным
Рогат, страх, праклён і жах, цішыня смяротна.

Рэха бомбаю ірвецца, вушы нагатове;
Мы не дзіч, мы звяры, не страляйце ў нас, панове.

Немагчыма рвуць паветра, свішча з-пад капыта —
У хмызняк, абы далей ад двуногага бандыта.

Бачыш, след крывавы абмінае паляўнічы:
Наша смерць яму патрэбна, нашае аблічча...

Там асталася ліса, сцяг чырвоны ў верасе,
Мордай уткнуўшыся ў зямлю ўжо на другім беразе.

Заяц вось які таўсцяк — неяк недарэчна
Проста у кацёл папаў, а з катла — у вечнасць.

Дзік ляжаў у баразне, як мурашнік рыжы,
Не хацеў ніяк сціхаць і раптоўна ўздрыгваў.

Кроў цякла з-пад яго — зглядзелі ўсе, што з рыла,
Хтосьці сплюнуў на яго, двое закурыла.

**І. Чыквін**

* ✲ *

**Хіба яшчэ**
**зусім не счарвівела**
**душа —**
**нейкая іскра**
**гарыць яшчэ ў крыві,**
**калі прыемна жыць**
**сярод дрэў.**
**Удыхаць водар жывіцы**
**і чабару.**
**Да маладых лісткоў**
**бярозы прытуліцца**
**і памарыць**
**аб вечна маладым**
**пачуцці...**
**Можа свет**
**не такі ўжо бязглузды**
**і паганы**
**і людзі**
**не так ужо дрэнныя.**
**Можа і варта жыць,**
**калі існуе**
**бескарыснае пачуццё**
**і чалавек**
**верыць чалавеку.**
**Калі так зварушліва**
**шчабечуць птушкі**
**і так цудоўна**
**свецяць**
**сонца**
**і... ў вяснянай усмешцы.**
**Карычневыя вочы.**

**Алесь Свісёк**

## Болька Фартэца



Дзеці называлі яго: Болька Фартэца. Як ён злаваў, калі пачуў празыўку — каменнямі кідаў.

Меў каханку, з якою пражыў трыццаць год. Яна памагала яму абрабіць чатырнаццаць гектараў зямлі. Усе гаспадары клалі на воз па пяць, шэсць капіц сена, бо мелі вазы-балёны, на гумовых колах, а Болька клаў на свой воз толькі дзве капіцы, бо ў яго воз-жалязняк, стары і цяжкі. І нават з дзвюма капіцамі аднаго разу вывярнуўся каля Поцькі.

Увечары прыйшоў да нас і пажаліўся, што ніхто не хоча яму памагаць. Каханка гультай.

— Наўстыдай яе, Болек.
— Не дай есці.
— Вазьмі другую.

Або мог думаць аб жаніцьбе? Ужо сёмы крыжык пачаўся.

— Абач, халера, жэрці хоча, а рабіць не хоча.

— Як кабыла не хоча ісці, пацягнеш батагом, пойдзе, — сказаў бацька.

Болек пачаў думаць аб тым, як паставіць новае гумно. Прасіў свайго брата, Меця, які адвакатам у Шчэціне, каб пазычыў грошай.

— Кажа, што не бяру і не даю, — пажаліўся Болек на брата.

Бацька паківаў галавою.

— Ну...

Болек паклаў рукі на стол.

— Некаторыя граюць у латарэю тоталёта, каб выйграць ...Граю, але не даюць выйграць.

Мо калісьці шчасце ўсміхнецца да змучанага чалавека?

**ЭДВАРД ЯРАШЭВІЧ**

* ✲ *

**Каму жыццё глядзела ў вочы,**
**Каму яно сціскала грудзі,**
**Той не сагнецца пад цяжарам**
**І панясе яго ў людзі.**

**І хоць выбоістай дарогай**
**Будзе па шчасце сваё крочыць,**
**Той не спужаецца нічога,**
**Каму жыццё глядзела ў вочы.**

**А калі страшная навіна**
**Яго абудзіць апаўночы,**
**Не затрасецца, як асіна —**
**Каму жыццё глядзела ў вочы.**

* ✲ *

Не хачу я сёння
  Заставацца дома,
Кліча луг зялёны,
  Шум лясных дубраў.
Сцежкі-пуцявіны
  Мне даўно знаёмы.
Я хачу паслухаць
  Ціхі шопат траў.

За шумлівым гаем,
  Па шырокім полі,
Я хадзіў за плугам
  Першай баразной.
Родны край бацькоўскі
  Я цябе вітаю.
І квяцістым лугам
  Я праходжу зноў.

А кругом навокал
  Вёскі ў зеляніне,
І пакрыты белым
  Дыванам сады.
Ціха шэпча лісце
  На тугой галіне..
Як жа тут застацца,
  Не пайсці куды?

## Будзь здароў родны дом...

**Будзь здароў родны дом!**
**Ціхі сад малады!**
**Навясціці я вас**
**Зноў прыеду сюды.**

**У гэтым доме я рос,**
**Тут да школы хадзіў.**
**Каля белых бяроз**
**Сіні бэз пасадзіў.**

**Колькі радасці тут**
**Перажыта і тугі.**
**Нат пратоптаны след**
**Для мяне дарагі.**

**Бо ад гэтых палёў,**
**Ад раднога сяла,**
**У дарогу жыцця**
**Мяне сцежка вяла.**

**Як таго не кахаць,**
**Як таго не любіць.**
**Не, дзяцінства свайго**
**Не магу я забыць.**

**Не пакіну нідзе**
**Нат хвілінкі адной.**
**Пакуль буду я жыць**
**Астанецца са мной.**

**Л. Танкевіч**



## Прызямленне



Сняцца мне сны трывожныя.
Іду па зямлі, бы па пожні, я.
Не, не зямля — думкі колюцца,
Нервы гудуць токам полюсным.

Кружу над зямлёю зморany.
У голуба пераўтвораны.
Рукі з галубінымі знакамі,
Снарады ў рукі гакаюць.

Значыць, буду зняможаны,
У мёртвую твань заваражаны.
Не, смерць нішто, хай іх сто нат' тут,
Страшна вандалаў яхіднага рогату.

Скручаны, камяком падаю,
У апошнюю ўваходжу стадыю.
Калыска мая разгойдана,
Зямля, не цягні кордамі.

Слухае. Прачынаюся.
На белы свет углядаюся.
А ён — у колераў оргіі —
Да мяне гарэзліва моргае.

**Юрка Зубрыцкі**

Пачатак на стар. 1




роддзя грамадства. Многія з абавязацельстваў збежныя з агульнаграмадскімі (пабудова дарог, рамонт вуліц, парадкаванне панадворкаў і т.п.). Міліцыянеры з Бельскага павета, напрыклад, працавалі пры пабудове адной з вуліц горада, у Голдапе зрабілі агароджу, у Кольне і Беластоку працавалі пры пабудове спартыўных пляцовак. А хаця б і такая справа. Паколькі ў Бельску міліцыя мае цесныя памяшкальныя ўмовы і не было адпаведнага складу на знойдзеныя матацыклы ці веласіпеды, міліцыянеры чынам пабудавалі такі складзік. А нават яшчэ бліжэйшыя нам справы. Нідзе ў Саколцы не знойдзеш так упрыгожанага кветкамі будынка, як памяшканне камэнды міліцыі. Зрэшты, справу кветак і чысціні адчуваецца таксама і ў тых памяшканнях (блёках), дзе жывуць міліцыянеры. Прыгледзьцеся гэтым будынкам, а ўбачыце пры гэтых блёках больш кветак і больш чысціні.

Да таго часу, калі аўтар збіраў матэрыял да артыкула (10.IX.г.г.), міліцыянеры Беластоцкага ваяводства грамадскім чынам перапрацавалі больш 32 тысяч гадзін. Чыны працягваюцца.

Каб павялічыць нашу бяспеку, міліцыянеры ўключна з працаўнікамі Ваяводскай камэнды МО прымаюць па-за гадзінамі працы службу ў найбольш небяспечных пунктах горада. Варта напомніць, што па-за службаю, грамадска, работнікі міліцыі і начальнікі аддзелаў выпрацавалі каля 20 тыс. гадзін. Гэтую добраахвотную службу работнікі міліцыі вядуць з уласнай ініцыятывы, і не толькі з нагоды свайго свята.


Міліцыянеры з Бельска пры пабудове адной з вуліц горада.

У даўгах не астанецца і грамадства. Сваю ўдзячнасць маніфестуе не толькі індывідуальна, але і групова. У гэтым годзе грамадства нашага ваяводства фундуе аж дзевяць сцягоў паасобным павятовым камэндам міліцыі (Гайнаўка, Саколка, Ломжа, Сувалкі, Дуброва, Элк, Замбраў, г. Беласток). Найбольшую прыемнасць адчуваюць работнікі міліцыі Гайнаўскага павета. Фундатарам сцяга для тамтэйшай камэнды міліцыі з'яўляецца школьная моладзь Гайнаўшчыны. З ініцыятывай такой выступіла моладзь з Ляснога тэхнікума ў Белавежы звяртаючыся з заклікам да ўсёй школьнай моладзі павета. Юнакі выконвалі шмат прац, між іншым, пры пасадцы лесу, у брыгадах ОГП, а зробленыя грошы пераказалі на фундатарскі рахунак ахвярадаўцаў сцяга. 28 верасня г.г. моладзь пераказала сцяг міліцыянерам.

Кожны год, а ў гэтым асабліва, грамадскасць робіць усё, каб не загінулі імёны тых міліцыянераў і працаўнікоў службы бяспекі, якія аддалі сваё жыццё на парозе адраджаючайся Народнай Польшчы. Мемуарныя дошкі загінуўшым адкрыюцца ў Беластоку, Кольне, Ломжы і Сямяцічах. У Візне адкрыецца памятнік паручніка Кані, ля школы, якая атрымала яго імя, а якую пабудавалі са сваіх складчын работнікі міліцыі Беластоцкага ваяводства.

Цяжка пералічыць справы, якія аб'ядноўваюць людзей у шэрых мундзірах з штодзённымі справамі нас усіх. З нагоды іх свята мы напомнілі толькі некаторыя. Дык пажадайма ім у дзень іх сярэбранага свята ўсяго найлепшага, прыгожых кветак.

А. Карпюк

## ВІТРЫНА БЕЛАРУСКАЙ КНІЖКІ

**Р. Мурашка, — Салаўі святога Палікарпа.** Раман Выд. «Беларусь», цана 6,70 зл.

Раман напісаны яшчэ ў 1940 годзе. Цікавы па сваім сюжэце, ён дае ўяўленне пра тыя працэсы, якія адбыліся ў беларускай вёсцы адразу ж пасля калектывізацыі.

**К. Крапіва, — Вершы і байкі,** цана 2,90 зл.

У зборніку ўключаны байкі і сатырычныя вершы, разнастайныя па тэматыцы і напісаны ў розныя гады. Аўтар востра і трапна крытыкуе і высмейвае абыякавыя адносіны асобных людзей да грамадскіх абавязкаў, беспрынцыпозасць, кар'ерызм, бюракратызм, жульніцтва, падхалімства, бескультурнасць.

**С. Дзяргай, — Выбранае (Вершы).** Выд. «Беларусь», цана 14 зл.

У кнігу ўвайшлі лепшыя творы паэта. Яны даюць поўнае ўяўленне аб творчасці гэтага цікавага, арыгінальнага мастака слова, дазваляюць прасачыць яго творчы шлях, яго тэматычныя і жанравыя пошукі.

**М. Машара, — Мая азёрная краіна.** Выбранае. Дзярж. Выд. БССР 1962 г. цана 9,80 зл.

**Ф. Куляшоў, — Іван Мележ.** Літаратурная біяграфія. Цана 4,00 зл.

**М. Лынькоў, — Летапіс эпохі.** Беларускай савецкай літаратуры пяцьдзесят год, цана 2,60 зл.

**А. Якімовіч, — Канец сервітуту** — цана 4,60 зл.

Вышэй указаныя кніжкі можна купіць у кнігарні
„Dom Książki" Białystok, ul. Kilińskiego 10. асабіста або пры дапамозе пісьмовага заказу за паштовым залічэннем. Кніжкі тэтыя можна таксама заказаць у сваёй кнігарні, якая павінна іх запатрабаваць з Беластока ці Варшавы.

(ак)

Пачатак на стар. 1

# МЕЛІЯРАЦЫЯ І ПРАБЛЕМЫ ВАДЫ

ныя вынікі, калі разыходзіцца аб прыроду. Гінуць тут рыбы і ракі, а таксама гэтыя мясцовасці перасталі быць астояй рэдкіх птушак.

Адным словам меліяранты не могуць быць толькі выканаўцамі пэўнага «пераробу», калі разыходзіцца аб залатоўкі, але і прадстаўляюць сабой грамадскія справы, якіх цяжка пералічыць на залатоўкі.

### ВАДАСХОВІШЧЫ

Каб пазбегнуць абсалютнага недахопу вады, плануецца пабудову шматлікіх вадасховішчаў. У наступнай пяцігодцы мае быць іх у ваяводстве дзевяць.

Адным з першых будзе аграмаднае **вадасховішча ў ваколіцы Бандароў на р. Нарве.** Будзе яно служыць да наваднення зялёных угоддзяў у даліне сярэдняй часткі Нарвы, да наваднення зялёных угоддзяў у даліне ракі Супрасль, а таксама пабольшыць запасы вады для г. Беластока. Агульны аб'ём вадасховішча Бандары 100 млн. кубічных метраў, паверхня 4.100 гектараў, а кошт каля 310 мільёнаў зл. У даліну Супраслі вада будзе пераведзена спецыяльным каналам даўжынёй у 52 км.

Недахоп вады ў даліне Нурца можа быць абяспечаны пры пабудове малых вадасховішчаў, у ваколіцах Кляшчэляў, Паканева, Малешаў і Мня. Да 1985 г. плануецца пабудаваць на Беласточчыне 26 такіх малых вадасховішчаў, якіх кошт асягне 1.121,1 млн. зл.

У сувязі з пераўтварэннямі, якія прынясе нам меліярацыя такіх рэк як Нарва, Бебжа ці Візна, неадкладна трэба правесці інвентарызацыю помнікаў прыроды і забяспечыць іх. На гэта яшчэ не запозна. **А каб магчыма добра гэта прайшло, арганізацыя, якая ахоўвае прыроду ЛьОП, павінна мець свой актыў, шырокі актыў сярод праектантаў і выканаўцаў меліярацыі.**

А. Карпюк



**У ТЭАТРЫ ІМЯ А. ВЯНГЕРКІ**

**У тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку ідзе зараз новая п'еса «Пан Явяльскі» Аляксандра Фрэдры. Камедыя. Рэжысерыя Браніслава Орліча.**

**На здымку (злева) Д. Расе — пані Явяльская, Б. Орліч — пан Явяльскі, С. Сяберскі — Людомір, Т. Запаснік — Віктар, В. Астроўскі — лёкай, Г. Длужынскі — шамбелян, М. Банасік — Януш.**

# Пагадненне

**ПАДПІСАНА ПАМІЖ ГАЛОЎНЫМ ПРАЎЛЕННЕМ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА З СЯДЗІБАЙ У БЕЛАСТОКУ І ВАЯВОДСКІМ ПРАЎЛЕННЕМ САЮЗА ВЯСКОВАЙ МОЛАДЗІ Ў БЕЛАСТОКУ Ў СПРАВЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА І СУМЕСНАГА ДЗЕЯННЯ.**

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі, далей званыя ГП БГКТ і ВП СВМ, рэалізуючы свае статутовыя заданні, у многіх выпадках дзейнічаюць у гэтых самых асяроддзях, а іх пачынанні ўзаемна дапаўняюцца.

Статут БГКТ у § 7 гаворыць: «Таварыства асягае вышэй указаныя мэты праз: а) супрацоўніцтва з палітычнымі, адміністрацыйнымі, грамадскімі, культурнымі, асветнымі, гаспадарчымі ўладамі і ўсімі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі», а Статут СВМ у § 27: «Гурток СВМ супрацоўнічае са школай, з сельгасгуртком, грамадскімі, асветна-культурнымі, спулдзельчымі і спартыўна-турысцкімі арганізацыямі».

І пагэтаму абедзве арганізацыі лічаць, што ў рэалізацыі прынятых заданняў Фронту адзінства народа неабходнае цеснае супрацоўніцтва на ўсіх узроўнях. Мэтай гэтага супрацоўніцтва павінна быць лепшае і большае і больш паспяховае развязванне праблем асяроддзя, а таксама запэўненне шырэйшага ўдзелу актыву абедзвюх арганізацый у рэалізацыі супольных заданняў вынікаючых з уласных пастаноў і пастаноў V з'езда ПАРП, а таксама рэкамендавання найлепшых дзеячаў у рады ПАРП.

Узаемадзейнасць гэтая павінна перш за ўсё датычыць:

**І. У аб'ёме арганізацыйнай дзейнасці:**

1. Узаемны ўдзел прадстаўнікоў арганізацыі ва ўладах ГП—ВП, ПА—ПА і аддзелах турткоў.

2. Арганізацыя супольных пасяджэнняў аддзелаў усіх узроўняў найменш адзін раз у год.

3. Прыйманне ўдзелаў у пасяджэннях грамадскіх камісій, творчых таварыстваў, гурткоў і г.д. пакліканых пры аддзелах паасобных узроўняў.

4. Узгадненне гадавых напрамкаў працы ў аб'ёме рэалізацыі супольных заданняў і шкалення актыву.

5. Абедзве арганізацыі будуць ствараць у сваіх асяроддзях патрэбную атмасферу ў арганізаванні гурткоў СВМ і БГКТ абапіраючыся на свае рады.

**II. У аб'ёме культурна-асветнай дзейнасці:**

1. Узаемадзейнасць у арганізацыі і вядзенні беларускіх аматарскіх мастацкіх калектываў.

2. Супольная арганізацыя лекцый, дакладаў, гутарак, аўтарскіх сустрэч, выставак, дыскусійных вечароў, канцэртаў, тэатральных прадстаўленняў, масавых дэманстрацый кіно, чытальніцкіх мерапрыемстваў.

3. Узаемадзейнасць на адрэзку развіцця фізічнай культуры, спорту і турыстыкі ў вясковым асяроддзі.

4. Супольная падрыхтоўка публікацый і дапамога ў іх распаўсюджванні.

5. Узаемная апека над клуба-кавярнямі Рух, клубамі маладога селяніна, святліцамі і іншымі культурна-асветнымі пунктамі, якія дзейнічаюць у беларускім асяроддзі.

6. Звяртанне асаблівай увагі на папулярызаванне дасягненняў Савецкай Беларусі і СССР. Гурткі СВМ і БГКТ будуць супольна весці т.зв. Клубы ведаў аб СССР.

7. Неадплатна рабіць даступнымі аб'екты і памяшканні з мэтай правядзення важнейшых культурна-асветных прац і рэалізацыі грамадска-палітычных заданняў супольна праграмаваных.

8. Супольна апекавацца маладымі талентамі і творцамі беларускага мастацтва ў рамах супрацоўніцтва літаратурнага аб'яднання «Белавежа» пры ГП БГКТ і КМП пры ВП СВМ і апекавацца помнікамі старадаўнасці беларускай культуры збіраючы экспанаты і пераказваючы ў Беларускі музей у Белавежы.

9. З мэтай запэўнення ўзаемнай інфармацыі — гурткі СВМ падпісваюць беларускі штотыднёвік «Ніва» — орган ГП БГКТ, а гурткі БГКТ — «Зажэве» орган ВП СВМ.

**III. У аб'ёме грамадска-гаспадарчай дзейнасці:**

1. У рамах рэалізацыі гаспадарчых заданняў арганізацыі супольна мабілізуюць грамадства да чынаў для ўлас-

## МУЗЫКА БЛІЖЭЙ ВЁСКІ



**Сцэна пасля канцэрта Беластоцкага сімфанічнага аркестра. Дырэктар і першы дырыжор Ян Куляшэвіч дзякуе публіцы за прызнанне і кветкі.**

**Фота Цаф — Сянько**

### ПРАГРАМА ДЗЯРЖАЎНАГА СІМФАНІЧНАГА АРКЕСТРА Ў БЕЛАСТОКУ НА 1969/70 СЕЗОН

Сучасная польская музыка — музыка 25-годдзя, канцэрты якой будуць арганізаваны разам з сустрэчамі з выдатнымі кампазітарамі.

Эстраднае выкананне оперы Станіслава Манюшкі «Галька» будзе выконвацца ў розных мясцовасцях ваяводства.

Канцэрты для школьнай моладзі разам з сустрэчамі з дырыжорамі і салістамі.

У 100 гадавіну нараджэння Уладзіміра Леніна будзе падрыхтаваны канцэрт твораў савецкіх кампазітараў. У канцэрце салістаў выканаецца любімы твор Уладзіміра Леніна — саната Бетховена «Апасіяната».

Акцыя «Музыка бліжэй вёскі» будзе прадаўжацца. Трэба, каб культурныя ўстановы больш зацікавіліся гэтай формай працы.

У лютым 1970 года прыйдзе час на чарговы, II агульнапольскі фестываль «Музыка і паэзія».

Будуць прадаўжацца ўсе ўжо выпрабаваныя формы папулярызацыі музыкі і музычнай культуры. Розныя камеральныя і вялікія канцэрты лёгкай і аперэтачнай музыкі будуць гэтаму служыць. Будуць прадаўжацца канцэрты на паветры, якія дасканала выходзяць у час залатой восені і свежай вясны.

### ПРАГРАМА БЕЛАСТОЦКАЙ «ЭСТРАДЫ», 1969/70 СЕЗОН

Слаўная актрыса Мечыслава Цвіклінская і ў гэтым годзе будзе выступаць у Беластоку ў «Дрэвах, якія паміраюць стоячы». Эстрада падрыхтуе таксама спецыяльную п'есу з удзелам актрысы, прысвечаную яе 70-годдзю працы з тэатрам.

Прыедуць у Беласток: Станіслаў Мікульскі, Багдан Папроцкі, Слава Пшыбыльская, Ганка Бяліцкая, Мечыслаў Вайніцкі. А таксама калектывы: «Моцны калектыў пад Вэзваннем» з удзелам Гжэськовяка і Хылы, «Трубадуры», «Гавайскія гітары», «Чырвоныя гітары», эстрадны калектыў авіяцыйных войск з праграмай «Эскадра». Прыедуць дзяржаўныя дальнаслёнская і познаньская аперэты.

Многія калектывы і салісты будуць выступаць у малых мясцовасцях, вёсках, клубах і святліцах. (вл)

---

нага асяроддзя, дбаюць аб пастаянны ўзрост сельгаспрадукцыі — аб увядзенне сучасных агратэхнічных і механічных дасягненняў:

а) гурткі БГКТ будуць падтрымліваць намаганні СВМ у распаўсюджванні сельскагаспадарчай і агульнай асветы і падрыхтоўцы моладзі да спецыялізацыі селяніна.

2) Ствараць умовы забяспечваючыя гурткам арганізацыі і актыву якнайбольшага ўдзелу ў працы рад нарадовых, сельгасгурткоў, рабочага самакіравання ў ПГР і іншых арганізацыях.

Гэтае пагадненне з'яўляецца дырэктыўным у галіне супрацоўніцтва для ўсіх інстанцый БГКТ і СВМ, асабліва ў паветах: Беласток, Гайнаўка, Сямяцічы, Саколка, Бельск Падляшскі і Дамброва Беластоцкая.

Абедзве арганізацыі арганізуюць да канца 1969 года нарады дзеячаў з мэтай абмеркавання рэалізацыі гэтага пагаднення. Будзе яно папулярызавацца на курсах і ў лагерах, а таксама на старонках друку.

Пасля каляндарнага года арганізацыі правядуць ацэнку адносна рэалізацыі пастаноў і накрэсляць канкрэтны збор пачынанняў на наступны год.

Гэтае пагадненне ўваходзіць у сілу ад моманту яго падпісання.

**Семяноўка, 16 верасня 1969 г.**

---

На старонках вераснёўскага нумара

# ПОЛЫМЯ

Перш за ўсё звяртаем увагу на новы раман Уладзіміра Карпава «Сотая маладосць» (друкуецца першая частка), у якім аўтар ставіць цікавыя праблемы сучаснай беларускай інтэлігенцыі. Заахвочваем таксама пазнаёміцца з новымі вершамі Максіма Танка. Вялікая падборка.

Чытачоў нашых павінны асабліва зацікавіць «беластоцкія» матэрыялы, якіх у гэтым нумары аж два. Гэта артыкул Мікалая Арэхвы «Працэс «ста трыццаці трох», у якім аўтар, кіруючы работнік ЦК КПЗБ, расказвае аб самым вялікім судовым працэсе ў гісторыі рэвалюцыйнага руху ў даваеннай Польшчы, які адбываўся ў 1928 годзе ў Беластоку.

Побач стаяць успаміны начальніка штаба Беластоцкага партызанскага злучэння Івана Сянкевіча «Рэйд на захад», у якім расказваецца аб арганізацыі злучэння і аб цяжкім баявым шляху яго да нашай зямлі. Аўтар падкрэслівае вялікую прыхільнасць мясцовага насельніцтва і прыводзіць цікавыя факты. Між іншым чытаем: «Насельніцтва Беластоцкай вобласці сабрала ў фонд Савецкай Арміі аблігацый і грошай на суму 4270 рублёў, долараў, срэбра і золата на 5 тысяч рублёў.

Наша партызанскае злучэнне вырасла ў грозную сілу. Прыйшоўшы на тэрыторыю вобласці ў складзе 700 партызан і здзейсніўшы баявы рэйд звыш 1000 кіламетраў, яно вырасла да 5 тысяч байцоў за лік мясцовага насельніцтва, якое мела шчырыя сімпатыі да Савецкай улады».

З публіцыстычных матэрыялаў звяртаем увагу на артыкул сакратара ЦК КП Беларусі Станіслава Пілатовіча «Творчая інтэлігенцыя і сучасная ідэалагічная барацьба». Між іншым даецца тут ацэнка выдадзеных за апошні час твораў прозы, паэзіі і драматургіі.

«Можна толькі шкадаваць, — піша аўтар, — што нашы пісьменнікі яшчэ мала звяртаюцца да тэмы працы, а між тым герой сучаснасці, а значыць станоўчы герой нашай літаратуры, найбольш ярка праяўляе сябе іменна ў працоўнай дзейнасці...»

Сакратар ЦК КПБ звяртае ўвагу, што некаторыя пісьменнікі слаба ведаюць жыццё па прычыне таго, што «ўвайшлі ў літаратуру проста са студэнцкай аўдыторыі і таму мяркуюць аб з'явах, якія адбываюцца ў жыцці, па пабочных звестках або ўжо занадта спадзяюцца на сваю інтуіцыю».

«Перашкаджае некаторым пісьменнікам, — піша далей аўтар, — і захапленне «моднымі» плынямі, жаданне чым-небудзь і як-небудзь вылучыцца. Не, не арыгінальнасцю свайго таленту і глыбінёй пісьменніцкай думкі, а гэтакім крытыцызмам, усёведаннем, «надчалавечнасцю».

Цікавы таксама артыкул Яўгена Бабосава «Навука і яе кадры». Даецца ў ім аналіз сучаснага кадравага стану беларускай навукі. Між іншым аўтар крытыкуе прапорцыі ў размеркаванні доктараў і кандыдатаў навук паміж сферамі непасрэдна навукова-педагагічнай і вытворчай дзейнасці.

«Цяпер склалася такая сітуацыя, — піша ён, — пры якой доктары і кандыдаты навук працуюць у сваёй абсалютнай большасці ў навучальных установах і ўстановах навукі, але выхад да вытворчай сферы маюць галоўным чынам праз гаспадарча-дагаворныя работы. Характэрна, што з агульнай колькасці доктараў навук, якія працуюць у рэспубліцы, у навукова-даследчых установах сканцэнтравана 118 чалавек, або 37,23 працэнта, у вышэйшых навучальных установах — 179 чалавек, або 56,47 працэнта, а ў іншых арганізацыях і ўстановах — крыху больш як 6 працэнтаў, прычым на прамысловых прадпрыемствах — ніводнага чалавека».

Аўтар звяртае таксама ўвагу на нацыянальны склад навуковых кадраў, на ўзрост іх, сігналізуючы вострую неабходнасць амаладжэння складу доктараў навук. Ювэ

---

### ГРОДЗЕНСКІЯ ЖУРНАЛІСТЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Ад 15 па 19 верасня прабывала на Беласточчыне трохасабовая група журналістаў з Гродзеншчыны, у асобах: загадчык сектарам друку і радыё пры абласным камітэце КПБ Валянцін Болтач, загадчык аддзела пісем «Гродзенскай праўды» Таіса Мозаль і галоўны рэдактар раённай навагрудскай газеты «Новае жыццё» Іван Вараб'ёў. Былі яны гасцьмі «Газеты Беластоцкай» і «Нівы». Дзень «Нівы» — гэта значыць паездка ў беларускае асяроддзе — згодна з дагаворам быў 14 верасня. Наведалі мы тры вёскі: Козлікі, дзе нарадзіўся маршал Савецкага Саюза Сакалоўскі, Райск, які немцамі быў знесены з твару зямлі, а месца вёскі было заворана, і Аўгустова, дзе пабывалі на міжгуртковай машынатрактарнай базе, у вясковым клубе і мясцовай школе. У Бельску было спатканне з сакратарамі Павятовага камітэта ПАРП, а пасля знаёмства з беларускім ліцэем. Госці наведалі таксама ў Бельску могілкі савецкіх воінаў, якія аддалі жыццё за вызваленне Бельшчыны.



**Справа налева: Т. Мозаль, В. Болтач, В. Млынчык («Беластоцкая газета»), І. Вараб'ёў, М. Хмялеўскі («Ніва»).**

**Фота Цаф — Сянько**

У Гайнаўцы ў Павятовым камітэце ПАРП гродзенскую дэлегацыю прынялі сакратары КП Аляксей Лазоўскі і Мікола Самоцік, а таксама старшыня Гайнаўскага аддзела Беларускага таварыства (дырэктар беларускага ліцэя) Аляксандр Іванюк і інструктар БГКТ Віктар Бура. У Гайнаўцы пабывалі госці ў памяшканні аддзела БГКТ і на лесапільным заводзе. Пасля госці пабывалі ў белавежскім прыродазнаўчым музеі і этнаграфічным музеі БГКТ.

Гродзенская дэлегацыя журналістаў пабывала таксама ў Ломжы, Навагродзе і ў Варшаве.

**Міхась Хмялеўскі**

---

# Бельскія будаўнікі

Бельска-падляшскае будаўлянае прадпрыемства, або звычайна — «Бэп». Так называюць яго ў Бельскім, Гайнаўскім і Сямяціцкім паветах.

Складаем яму візіт. Ёсць дзеля гэтага важная нагода. Вось у скромна абсталяваным дырэктарскім кабінеце стаіць на ганаровым месцы трохвугольны сцяжок, зашыты ў празрысты нейлон. Гэта сімвал прызнання. Бельска-падляшскае будаўлянае прадпрыемства аказалася самым лепшым прадпрыемствам у сям'і трынаццаці іншых будаўляных прадпрыемстваў гэтага тыпу ў Беластоцкім ваяводстве.

Прадпрыемства ўзнікла ў красавіку 1950 года. Жывой яго хронікай з'яўляецца намеснік дырэктара па тэхнічных справах тав. Эдмунд Файкоўскі. Працуе ён у Бельскім «Бэп»-е ад пачатку яго існавання.

— Спачатку, — успамінае ён, — была ў нас будаўляная спулдзельня «Зруб». На базе гэтай спулдзельні ўлады заснавалі дзяржаўнае будаўлянае прадпрыемства. Толькі гэтая спулдзельня не пакінула нам аніякай базы. Бельскае надлясніцтва для патрэб нашага прадпрыемства адвяло за горадам пустую пляцоўку і на гэтай пустэчы распачалі мы сваё жыццё. У сваім распараджэнні мелі мы тады 4 конныя вазы, 1 грузавік і 1 бетонамяшалку. Калі ўспомню той час, дык і смяяцца і плакаць хочацца. Будавалі мы вось будынак для Павятовага камітэта ПАРП у Бельску. Была гэта адна з першых больш вялікіх пабудоў. Трэба было спяшацца. А як? Не хапала звычайных прылад.

А пасля пачаліся ў прадпрыемстве дзіўныя рэчы. Прыбывала прылад, раслі заданні і разам з імі раслі затраты. Бельскі «Бэп» пераўтвараўся амаль што ў штрафнае прадпрыемства. Высылалі туды людзей за кару, або яны самі шукалі там сабе прытулку, калі ў іншым лепшым месцы «пакаўзнулася» ім нага. За памяці Эдмунда Файкоўскага змянілася аж 7 дырэктараў бельскага «Бэп»-у. Нічога тады дзіўнага, што вельмі часта прыходзілася слухаць «сачыстыя віншаванні», якія ў адрас бельскіх будаўнікоў пасылалі тыя, хто гадамі чакаў на заканчэнне пабудовы, або ўжо карыстаўся халтурна збудаванымі будынкамі. Дайшло ўжо да таго, што ваяводскія ўлады ўсур'ёз задумоўваліся, ці не закрыць гэты бельскі «Бэп», бо больш было з ім бяды, як карысці з яго існавання.

Восьмым дырэктарам Бельска-падляшскага будаўлянага прадпрыемства з'яўляецца магістр інжынер Мар'ян Віслоўскі. У Бельску працуе ўжо 3-ці год і ўсё паказвае, што астанецца тут надаўжэй.

— Ці можаце выявіць ваш сакрэт, таварыш дырэктар? Якім чынам дабіліся вы за так кароткі час так карэннага аднаўлення бельскага прадпрыемства?

— Вялікую маральную і арганізацыйную падтрымку атрымалі мы ад Павятовага камітэта партыі ў Бельску і асабіста ад таварыша Уладзіміра Міхалюка, які тады быў тут I сакратаром гэтага камітэта. Затым пачалі мы прымяняць навуковыя метады арганізацыі працы. Адным са звенняў гэтай арганізацыі працы з'яўляецца новая сістэма заплаты за працу. Маем выспецыялізаваныя брыгады і кожная брыгада ведае, колькі можа зарабіць за канкрэтна выкананую працу. Ведае таксама, што калі выканае яе хутчэй і больш старанна, дык заробіць больш. I гэта наш сакрэт, а ядром яго з'яўляюцца людзі. Трэба іх зацікавіць сваёй працай. Дзеля гэтага неабходна стварыць ім умовы, каб здабылі ўласцівую падрыхтоўку, каб вучыліся. Мы ў сябе паставілі справу ясна: ніхто не можа займаць адказнай пасады, калі не мае адпаведнай адукацыі. I людзі пачалі вучыцца. Многія закончылі ўжо тэхнікумы, іншыя здабылі правамоцтвы майстраў, яшчэ іншыя вучацца ў вышэйшых школах. Стараемся прыцягнуць да сябе выпускнікоў вузаў. Нам патрэбны інжынеры, эканамісты, юрысты. Для студэнтаў, якія захацелі б да нас прыйсці працаваць, ахвотна прызначым стыпендыі. Вось магістр інжынер Ежы Дзмітрук, які з'яўляецца зараз кіраўніком будовы, быў нашым стыпендыстам. Прадпрыемства мае ўласную прафесіянальную школу, у якой вучыцца амаль 100 будучых рабочых будаўнікоў.

Дырэктар Віслоўскі з'яўляецца вопытным будаўніком. Здабываў прафесіянальную практыку, між іншым, нават на плоцкай нафтабудове. Ён ведае чаго хоча, і яго намаганні аказаліся плённымі. Прадукцыйнасць працы на працягу трох апошніх год узрасла ў бельскім «Бэп»-е на звыш 60%. Усе будынкі бельскія будаўнікі аддаюць у карыстанне датэрмінова. Зараз найбольш сур'ёзнай пабудовай з'яўляецца бельскі філіял беластоцкай фабрыкі жалезных прылад (Ухвытаў). На гэтую пабудову адводзіцца аж 200 мільёнаў злотых. Гэта цяжкі экзамен для бельскага «Бэп»—у. Яго рабочыя здаюць яго добра і гэтым чынам запісваюць новую, на гэты раз, слаўную старонку ў гісторыі свайго прадпрыемства.

**М. Нурэцкі**




# КАСТРЫЧНІК

### 10 ДЗЁН, ЯКІЯ ЎСКАЛЫХНУЛІ СВЕТАМ

У 42 гады пасля маскоўскай прэм'еры, на экраны нашых кіно ўваходзіць фільм «Кастрычнік» Сяргея Эйзенштэйна.

### ГІСТОРЫЯ ФІЛЬМА.

Увосень 1926 года Міхаіл Калінін папрасіў да сябе Сяргея Эйзенштэйна — 28-мігадовага тады аўтара слаўнага ўжо «Браненосца Пацёмкіна» і яго блізкага супрацоўніка Грыгорыя Аляксандрава. Калінін паказаў ім кніжку «10 дзён, якія ўскалыхнулі светам» Джона Рыда і сказаў, што патрэбен быў бы такога роду фільм, які б расказваў пра рэвалюцыю, і ўпершыню, у фільме не дакументальным, паказаў бы Уладзіміра Леніна.

Эйзенштэйн згадзіўся на прапанову. Было вырашана зрабіць фільм па кніжцы на дзесятую гадавіну Вялікага Кастрычніка. Часу аднак на гэта асталалася вельмі нямнога.

У сакавіку 1927 года сцэнарый быў гатовы і Эйзенштэйн выехаў у Ленінград. Тут вельмі дакладна збіраліся і вывучаліся месцы і рэквізіты. Усё трэба было рабіць старанна. Усё трэба было рабіць дакладна так, як выглядала яно ў час рэвалюцыі 17-га года. Напрыклад, з ленінградскіх паркаў звезена 12 вазоў лісця, рассыпана іх у ваколіцы Зімняга палаца і паліта вадой, каб гэтак стварыць уражанне позняй восені.

Супрацоўнікі Эйзенштэйна хадзілі па вуліцах горада, шукалі па ўсёй краіне людзей, якія б выступілі ў фільмах і былі падобныя да сапраўдных гістарычных постацей рэвалюцыі. Эйзенштэйн не дапускаў прафесіянальных акцёраў да свайго фільма.

Ад 27 сакавіка 1927 года маем такую аб'яву: «Бюро працы шукае дзве асобы: падобнага да Керанскага і падобнага да Чхэідзе...»

Яшчэ ў маі Эйзенштэйн запісаў у сваім дзённіку: «Чорт вазьмі, дагэтуль не знайшоўся Керанскі. Ёсць толькі кепскія кандыдаты».

Найбольш адказным заданнем было знайсці выканаўцу ролі Леніна. Надзея Крупская і сястра Леніна, Марыя Ульянава, былі супраць таго, каб гэтую ролю даць прафесіянальнаму акцёру. Шукаўся таму чалавек надта падобны да Леніна. Крупская казала: «Было б найлепш, каб гэта быў рабочы».

Аж урэшце ў Наварасійску, над Чорным морам, адна фільмовая экіпа знайшла чалавека надта падобнага да Леніна. Быў гэта параходны механік Васіль Нікандраў. Запрошаны ў Маскву ён праз месяц хадзіў па музеях, чытаў дакументы і размаўляў з людзьмі, якія ведалі Леніна.

Калі пачаў здымацца ў фільме, сказаў: «Вельмі стараюся, каб ігрой сваёй дапоўніць маё падабенства да Леніна. Але для мяне, рабочага, цяжка гэта ідзе. Рады толькі, што я рабочы, а не акцёр».

Праца над фільмам ішла днём і ноччу, але да канца далёка. І не ўдалося зрабіць фільм на 7 лістапада 1927 года. Поўнасцю ён быў гатовы 14 сакавіка 1928 года. Публічная апінія прыняла фільм па-рознаму: адны вельмі хвалілі, іншыя ганілі. Многія не разумелі мастацкіх прыёмаў Эйзенштэйна.

Потым негатыў фільма загінуў. Доўга не маглі знайсці аніводнай поўнай копіі. Толькі ў канцы 50-тых гадоў было пастаноўлена вярнуць фільму пачатковую постаць. Выкарыстана для гэтага фрагменты, якія захаваліся, запіскі Эйзенштэйна і г.д. Працамі над рэканструкцыяй «Кастрычніка» кіраваў Грыгорый Аляксандраў. Фільм на пачатку быў роблены нямым, у новай постаці атрымаў голас. Зараз цэнім гэты выдатны Эйзенштэйна твор, як непаўторны дакумент рэвалюцыі. (вл)

# Пераклады польскай літаратуры

За мінулае 25-цігоддзе было перакладзена на 80 моваў свету звыш 4 тысячы кніжак польскіх аўтараў. Кніжкі гэтыя былі перакладваны нават на такія мовы, як гінду, кабардынскую, японскую, кітайскую, карэанскую, персідскую.

Найчасцей перакладаўся Генрык Сянкевіч — 350 пазіцый на 50 мовах свету. З сучасных найбольш перакладаў, 60, меў Леан Кручкоўскі. Часта перакладаўся Уладзіслаў Бранеўскі, Канстанцін-Ільдэфанс Галчынскі, Юльян Тувім, Юльян Пшыбось, Тадэуш Ружэвіч. (вл)

## ЛЕКАР ПРЫРОДА

### Арабіна звычайная

Гэта прыгожае, стройнае дрэва з яркімі чырвонымі гронкамі асабліва вылзяляецца цяпер сярод багатага разнакветцця лесу.

У медыцыне выкарыстоўваюць ягады арабіны. Збіраюць іх позняй восенню да надыходу замаразкаў. Зразаюць гронкамі, а потым адрываюць ад пладаножак і сушаць на сонцы або ў печы. Гатовая сыравіна — сухія ягады чырвона-аранжавага колеру, горка-кіслыя на смак. Яны маюць у сабе карацін, вітамін С, цукар, арганічныя кіслоты і дубільныя рэчывы. У насенні, акрамя таго, утрымліваецца амігдалін і масла. Ягады арабіны ўжываюць як вітамінны сродак. Іх завараваюць як чай і выкарыстоўваюць для прыгатавання вітамінных прэпаратаў.

У народнай медыцыне адвар кветак арабіны п'юць пры хваробе печані, прастудзе, зобе. Ягады арабіны ў свежым выглядзе або як варэнне ўжываюць пры сардэчных хваробах, паніжанай кіслотнасці страўніка, хваробе печані, ад запалення залоз.




### Ікра з селядца з сырам

150 г. сметанковага масла, адзін стограмовы плаўлены сырок, і несалёны селядзец (зняць філе), 1 вараная морквіна прапускаюць праз мясарубку, дадаецца лыжка маянезу, перамешваецца (але не расціраецца) і ставіцца на 1 гадзіну ў халоднае месца.

### Салата з фасолі

1 кг фасолі адварыць у несалёнай вадзе да гатоўнасці, астудзіць. На адну шклянку смятаны дадаць 1 чайную лыжку гатовай гарчыцы, добра перамяшаць і заправіць фасолю. Саліць па смаку.

### Бульба

Бульба ў «мундзіры» будзе больш смачнай, калі яе варыць не ў халоднай вадзе, а заліць варам. Каб лупіны не лопаліся, бульбу трэба накалоць відэльцам.

Каб бульба не была вадзяністай і не развырылася, яе лепш варыць не ў вадзе, а на пары.

Вараная бульба будзе бялейшай, калі яе апусціць у вар з воцатам або лімонным сокам (чайную лыжку на літр вады).






**7 кастрычніка мінае 20 год ад узнікнення ГДР — першай у гісторыі дружалюбнай і прыязнай нам нямецкай дзяржавы. За гэты перыяд наш заходні сусед дабіўся вялікіх дасягненняў і паспяхова ідзе ў сацыялістычную будучыню.**

**На змешчаным здымку вы бачыце славуты берлінскі Александрпляц у новай вопратцы.**

## Чэрць стагоддзя назад




### ЧУЖАЯ ЗЯМЛЯ

Такое ёсць правіла, што самы цяжэйшы павінен пакідаць самалёт першы, бо яго парашут зніжаецца хутчэй, можа насцігнуць некага ў паветры, а такое сутыкненне небяспечна. Але гэтае правіла не было ўзята пад увагу: кіраваліся больш важнымі меркаваннямі, якія вынікалі з пастаўленай кожнаму з нас задачы. Так здарылася, што мне, самаму цяжкаму ў групе, давялося скакаць не першым, а апошнім.

Парашут падаў роўна. Я пачаў угледацца ўніз. Там, наперадзе, заўважыў тры белыя сподкі раскрытых парашутаў. «Прызямліліся. Без стрэлу», — падумаў я з палёгкай. Калі я зноў зірнуў уніз, на парашут, ён раптам страціў сваю форму і, як капшук, застыў нерухома. Значыць, унізе стары лес і парашут павіс на дрэве. А меркавалася, што мы прызямлімся на малады хмызняк.

Адчуваючы блізкасць зямлі, я ўвесь падцяўся, шчыльна звёў ногі, каб не пакалечыцца, калі патраплю на сукі. І якраз у час паспеў зрабіць гэта, бо тут жа пачуў, як з трэскам крышылася нада мной сучча. Парашут павіс, але да зямлі не дастаў. Унізе было цёмна, нібы там быў глыбокі калодзеж. Не спрабуючы вызваліцца ад лямак, я адразу ж хапіўся за аўтамат. Прыслухаўся. Стрэлаў не чуваць. Ціха. Гучна білася сэрца. Паспешліва адшпільваю рукзак і выпускаю яго з рук. Туга напакаваны боепрыпасамі, радыёбатарэямі, кансервамі, сухарамі, ён важка чмякнуўся аб зямлю. Я прыкінуў: да зямлі не менш пяці метраў. Рэзаць стропы і скакаць небяспечна — можна паламаць ногі.

Вочы хутка прызвычаіліся ў цемнаце, і я ўбачыў справа і злева ад сябе тоўстыя аголеныя камлі. Стараюся дацягнуцца спачатку да аднаго, а потым да другога рукой, але мне гэта не ўдаецца. Нацягнутыя стропы не даюць разгойдацца. Рассякаю некалькі стропаў з аднаго боку кінжалам, і мяне адразу тузанула ўлева — я апынуўся каля самага камля, паспеў абхапіць яго нагамі. Адсек астатнія стропы і слізгануў на зямлю. Вобмацкам знайшоў рукзак, закінуў яго за плечы і зноў насцярожана прыслухаўся, сціскаючы аўтамат.

І хоць яшчэ не сустрэўся, ні з адным з дзевяці сваіх сяброў-разведчыкаў, якія прызямліліся недзе побач, мною авалодала нейкае своеасаблівае пачуццё: я стаяў на зямлі ворага. Праз многія зімы і леты мы нарэшце дабраліся сюды, у бярлогу фашысцкага звера. Значыць хутка яму канец. І хоць кожны з нас, відаць не надта верыў, што дажыве да перамогі, але ўсе ведалі — яна хутка настане.

Некалькі мінут я прастаяў, мяркуючы, як зняць парашут. Нельга ж яго пакінуць на дрэве. Раптам пачуўся трэск ламачча, я насцярожыўся, стаіўся. Побач праходзілі людзі. Я падаў умоўны сігнал і пачуў адказ. Падышоў камандзір разведгрупы Павел Крылатых.

— Усё ў парадку? — спытаў ён у мяне.

— Парашут засеў.

— Гэта ўжо другі, хай яго... Цяжка зняць — сосны высокія. Пакінем. Трэба шукаць астатніх.

Я далучыўся да іх, і мы пайшлі далей. Набрылі на лейтэнанта Мікалая Шпакава і радыстку Зіну. Яны таксама спрабавалі сцягнуць парашут.

— Кіньце, — сказаў ім Крылатых.

— Як жа? — развяла рукамі Зіна. — Адразу ж выявяць!

— Два парашуты пакінулі ўжо вісець, твой будзе трэці, — сказаў камандзір. — Ноч кароткая. Наўрад ці ўдасца паздымаць іх да світання. А мы ж яшчэ не сабралі ўсіх.

— Я свой парашут закапаў, — сказаў Шпакаў. — Каб сустрэць астатніх, бадай, трэба ісці на захад. Вось так, паказаў ён рукой, гледзячы на компас.

— Добра, так і пойдзем, — згадзіўся Крылатых.

Хутка сустрэлі Генку Юхневіча, пятнаццацігадовага хлапчука. Ён прызямліўся ўдала. Я асабліва ўзрадаваўся яму. Мы з ім пасябравалі даўно, яшчэ ў разведгрупе «Чайка», што дзейнічала пад Мінскам.

— Ціха... — Чуеце трэск? — прашаптала Зіна.

— Так, чую, — адказаў Крылатых. — Хутчэй за ўсё, гэта — нашы. Ісці ціха!

Гэта былі нашы. Два разведчыкі важдаліся з парашутамі. Адзін з іх, трымаючыся за стропы, стаяў на зямлі, а другі, пакінуўшы аўтамат і зняўшы боты, залез на дрэва.

— А ну, тузані яшчэ! — камандаваў ён зверху.

— Іван, злазь, нічога не выйдзе, — пачулася знізу.

Крылатых, не выходзячы з-за дрэў, падаў умоўны сігнал.

— Мы тут, — пачуўся адказ, хоць ён павінен быў быць пададзены толькі свістам.

— Гэта ты, Шварыка? — спытаў, падышоўшы, Крылатых.

— Я. Памажыце зняць парашут.

— А хто на дрэве?

— Іван Аўчароў.

— Цягніце! Чаго стаіцё? — зноў пачулася зверху.

— Іван злазь! — загадаў Крылатых. — Вы што ж гэта такі шум узнялі?

— Дык тут жа лес — нікога няма! — апраўдаўся Аўчароў.

— У лесе, ды не дома. Будзьце асцярожныя. Каго яшчэ няма з нашых?

— Марозавай і Мельнікава, — адказаў Шпакоў.

— Чуеце, — наш сігнал! — зноў пер-

# ТРЫБУНА чытачоў

## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ ГУРТОК У БАГНЮКАХ

У вёсцы Багнюкі (Беластоцкі павет) сельскагаспадарчы гурток утварыўся 13 год таму назад. Сёння абслугоўвае ён сваімі сельскагаспадарчымі машынамі такія навакольныя вёскі, як: Таніцу, Бандары, Рыбакі, Гарбары, Рудню, Бахуры, Болтрыкі і іншыя. 13 гадоў у гуртку нязменна старшынствуе Сцяпан Багнюк. Багнюкоўскі гурток працуе без страт, а ў 1967 г. меў 50 тыс. надвыжкі. У гуртку ёсць 5 трактарных камплектаў сельскагаспадарчых машын, 16 сеўнікаў, 3 капачкі, 4 касілкі, 3 снопавязалкі і г.д. Гурток дапамагае ў працы паасобным гаспадарам, а ў першую чаргу ўдовам і тым, хто не мае ўласных коней. Гурток мае вялікі ўплыў на прагрэс у сельскагаспадарчай культуры. Добра працуецца старшыні гуртка Сцяпану Багнюку. Гэта перадавы і сучасны гаспадар. Мае ён электрычную даярку, шмат сельскагаспадарчых машын, матацыкл, тэлевізар.

**Я. Цал.**
**Багнюкі**

## ПЕРАДАВІК ПР

На Гайнаўшчыне калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, пад скарочанай польскай назвай ПР, маюць добрыя дасягненні. Асабліва некаторыя кіраўнікі групы, або як прынята іх называць «пшодоўнікі» — перадавікі маюць чым пахваліцца. Вось, напрыклад, Іван Масайла з Курашава, ГРН Чыжы, браў удзел у конкурсе вырошчвання агародніны, а таксама ў конкурсе гадоўлі цялят. Працуе ён на 8-мігектаровай гаспадарцы. У яго сярэдні ўраджай чатырох зернавых культур у гэтым годзе — 27 цэнтнераў з гектара, а калі разыходзіцца аб ячмень, дык атрымаў ён 34 цэнтнеры з гектара.

Іван Масайла закантрактаваў: адзін гектар збожжа і чатыры вепрукі, і ўсё гэта здаў у тэрміне з вялікай карысцю для сябе.

**Віталі Назарук**
Гайнаўка

## МЕНШ ПАЖАРАЎ

Нягледзячы на гэта, што ў гэтым годзе вясна і восень характарызаваліся пасухай, спрыяючай павелічэнню пажараў, аднак у мінулым годзе пажараў было на Бельшчыне значна больш. Налічвалася іх 30. Вартасць спаленага асягнула 2 мільёны 200 тысяч зл. У 1969 годзе, у гэтым самым перыядзе, было 21 пажараў, а страты акрэсліваюцца сумай 838 тысяч зл. Зменшанне колькасці пажараў было вынікам праведзенай прафілактычнай акцыі. Тыя асобы, якія не перасцерагалі супрацьпажарных загадаў, былі пакараны штрафамі. А разумныя кары таксама выхоўваюць і змушаюць да большай асцярожнасці з агнём.

**С. Верас**
Бельск Падляшскі

## ДАМЫ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

У грамадзе Юшкаў Груд (Беластоцкі павет) будуюцца дамы для настаўнікаў у вёсках Юшкаў Груд і Рыбакі. Пабудова іх закончыцца яшчэ ў гэтым годзе. Настаўнікі будуць карыстаць і з новапабудаваных гаспадарчых будынкаў.

**Ц. Я.**
**Юшкаў Груд**




**Дарагое Сэрцайка!**

Два гады мы сябравалі з Васем. Пачаткова дык было гэта толькі сяброўства, аднак пасля нейкага часу мы пакахалі адзін аднаго. Мы часта сустракаліся, хадзілі на забавы, бралі ўдзел у мастацкім гуртку. Вася таксама з тае самае вёскі, што і я. Ніколі мы не сварыліся, заўсёды разумелі адзін аднаго. І вось што здарылася. Вася паехаў на вяселле (выходзіла замуж яго сястра) у іншую вёску. Праз пару дзён мая сяброўка, якая таксама была на гэтым вяселлі, расказала мне аб вельмі дрэнных паводзінах Васі на вяселлі. Мне было прыкра, вельмі прыкра. На другі дзень пасля гэтага прыйшоў да мяне Вася, але я не захацела з ім гаварыць, сказала яму толькі пару прыкрых слоў і выйшла з хаты. Больш ён не прыйшоў да мяне. Калі мы сустрэліся на забаве, нічога не гаварылі. Вася стаяў цэлы вечар сумны, не танцаваў. Мне таксама не было весела. Я ж Васю кахаю. І так ужо месяц часу. Ужо не магу далей так жыць, надумалася сама яго зачапіць пры сустрэчы і разгаварыцца з ім. Парай, ці выпадае, бо сяброўка мая гаворыць, што павінен ён першы адазвацца да мяне, а мне не выпадае.

**Надзя з Гайнаўшчыны**

Надзя! А ці выпадала табе так паступіць з Васем? Напэўна не. Сама пачала, дык і сама ты павінна кончыць. Ты ж не пагаварыла з Васем, не дала яму вытлумачыцца, толькі сама сказала, што ведала, і выйшла. Сяброўкі ніколі не бываюць добрымі, іменна калі справа ідзе аб хлопцаў. Цяпер не слухай сяброўкі, а пры сустрэчы сама папрасі Васю, каб пагаварыць. Калі ён цябе кахае, напэўна будзе вельмі рады. Вы самі, без сведкаў, высніце гэтую справу. А паводзіны неразважлівыя будуць навукай вінаватаму.

**Сэрцайка**

Павятовыя дажынкі ў Гайнаўцы

## ПЛЁН, НЯСЁМ, ПЛЁН!

У нядзелю 14 верасня 1969 г. на лясной палянцы паблізу Гайнаўкі адбыліся павятовыя дажынкі.

Мерапрыемства надзвычай добра ўдалося і цешылася вялікім зацікаўленнем прыбыўшых дажыначных гасцей і жыхароў Гайнаўкі. Яшчэ ніколі дагэтуль свята ураджаю на Гайнаўшчыне не цешылася такой вялікай колькасцю ўдзельнікаў.

Урачыстасць адкрыў пасол у Сейм Міхась Адамец. Затым быў прыгожы дажыначны карагод у выкананні беластоцкага мастацкага калектыву «Курпе Зялёнэ».

На заканчэнне дажынак Анастасія Стэпанюк — старшыня гуртка Вясковых гаспадынь у Трасцянцы і Уладзімір Куптэль, прэзас сельскагаспадарчага гуртка з Ягаднікаў уручылі гаспадару дажынак, І сакратару КП ПАРП Аляксею Лазоўскаму бохан хлеба з надпісам: «25 год ПНР».

На дажынках выступалі вучні з гайнаўскіх сярэдніх школ, якія выконвалі спартыўныя фігуры.

Выступаў калектыў «Курпе Зялёнэ», музыкальны калектыў з Дома культуры «Ляснік» у Гайнаўцы і беларуская эстрада ГП БГКТ «Лявоніха». Удзельнікі дажынак глядзелі вялікую і цікавую сельскагаспадарчую выстаўку.

Вечарам дэманстраваўся фільм, а потым адбылася забава.

**Тэкст і фота Янка Цялушэцкі**



**Гаспадар дажынак, І сакратар ПК ПАРП — Аляксей Лазоўскі прыймае традыцыйны бохан хлеба з рук Анастасіі Стэпанюк з Трасцянкі і Уладзіміра Куптэля з Ягаднікаў.**



**«Курпе Зялёнэ» з Беластока выконваюць «Курпёўскую сюіту».**

шая пачула пазыўныя Зіна. — Гэта, напэўна, Аня.

Зіна адказала на сігнал і тут жа пацвердзіла:

— Так, яна. Хадзем!

Аня з парашутам завісла паміж дрэвамі высока ад зямлі.

— Не магу злезці. Памажыце! — папрасіла яна.

— Падрэж стропы, дацягнешся да камля, — параіў Шпакаў.

— У мяне няма нажа.

— Зараз я табе падам.

Аню выбавілі з палону.

— Значыць, няма яшчэ Мельнікава, — сказаў Шпакаў.

Але тут жа пачуўся голас з цемнаты:

— А я тут. Даўно вас пачуў: ды ўсё парашут сцягнуць не мог. Так і застаўся вісець.

—Цьфу, ты, чорт! — вылаяўся Шпакаў. — Шэсць парашутаў з дзесяці пакінулі на дрэвах.

— А чаму парашуты робяць белыя? — шэптам спытаў Генка. — Хай бы яны былі зялёныя, пад колер лесу — цяжэй было б заўважыць іх.

— Праўду кажаш, — адказаў яму хтосьці. — І сапраўды — чаму яны белыя?

— Ну, таварышы, віншую вас з паспяховым прызямленнем, — сказаў Крылатых. — Памятайце, мы ў глыбокім тыле ворага. Задача наша адказная, але ганаровая. Гітлераўцы прыкладуць усе сілы, каб перашкодзіць нам выканаць яе. Нас мала. Узаемавыручка — гэта наш святы абавязак. А цяпер трэба знайсці спушчаны груз, і тады накіруемся на паўднёвы ўсход, да ракі.

Мы прачасалі лес, але груз не знайшлі. Ён нам быў вельмі патрэбны. Толькі знайсці яго ў незнаёмым лесе, ды яшчэ ноччу, калі прабіраешся амаль вобмацкам, можна толькі выпадкова. Мы адчувалі, што нашы запасы харчавання, боепрыпасаў, камплекты радыёсілкавання трапяць у рукі ворага.

Калі неба на ўсходзе пачало святлець, а зоркі гаснуць Крылатых пастроіў групу ланцужком, пералічыў усіх.

— Трэба адсюль ісці. За мной! — загадаў ён.

Ішлі хутка. Крылатых час ад часу паглядаў на компас, радзей на гадзіннік. Рака, да якой мы спяшаліся, так і не паказвалася.

— Зварыка адстае, — перадалі па ланцужку.

Крылатых спыніўся.

— Ідзі паглядзі, што ў яго? — сказаў ён мне.

Я вярнуўся назад. Зварыка накульгваючы, даганяў групу.

— Што з табой, Юзік?

— Нагу падвярнуў, калі прызямляўся. Думаў, што абыдзецца, а вось — баліць. Ды і ношка нішто сабе. — Вочы яго з сумам глядзелі на мяне.

— Ідзі наперад, — параіў я. — Адстанеш — прападзеш!

— Не, не, — запярэчыў Юзік, — я буду ісці ззаду. Уперадзе яшчэ цяжэй. Не думай, не адстану. Толькі так хутка не ідзіце.

Прайшлі яшчэ кіламетры тры. Стала зусім светла. Недзе за лесам уставала сонца. Першыя промні ўпалі на вяршыні соснаў. Наперадзе пачуўся і хутка пачаў нарастаць гул машын. Мы падышлі да шашы. Крылатых даў знак спыніцца і залегчы. Сам ён дастаў карту і паклікаў Шпакава. Некалькі мінут яны вывучалі карту, звяралі з мясцовасцю, але так і не змаглі вызначыць, дзе мы знаходзімся.

— Давайце перамахнём цераз шашу. Усё-такі будзем далей ад парашутаў, — прапанавала Зіна, гледзячы на Шпакава.

— Добра кажаш, — падтрымаў яе Крылатых. — Пайшлі!

У плямістых маскіровачных касцюмах разведчыкі, як статак тыграў, кінуліся на дарогу і ў момант апынуліся на другім яе баку. Там быў лес з даволі густым падлескам, кустамі арэшніку і альшанікам. Крылатых даў знак спыніцца.

— Тут застанемся на днёўку. — аб'явіў ён. — Будзем весці кругавое назіранне. Усім добра замаскіравацца, — і першы скінуў свой ранец, паклаў яго пад дрэва. Апусціўшыся на калені, зняў акуляры і працёр іх краем гімнасцёркі. Затым зноў надзеў, агледзеўся і сказаў мне:

— Будзеш з Мельнікавым назіраць за шашой. Падыдзіце як мага бліжэй.

Мы адпаўзлі ад групы метраў за пяцьдзесят і забраліся ў лапушысты куст арэшніку. Дарога з нашай пазіцыі праглядвалася добра. Прайшло каля гадзіны. Па дарозе праносіліся крытыя ваенныя грузавікі. Часам бясшумна каціліся чорныя лімузіны.

Жвавыя сінічкі не звярталі на нас увагі, зусім побач скакалі з галінкі на галінку, нешта знаходзілі, клявалі, весела пераклікаючыся паміж сабой. Так пачыналася наша першая раніца на варожай зямлі.

**(Працяг будзе)**

**«НІВА» — ВАШ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ.**
**ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Manewry Dniepr” (radz.), 7—8. „Wehikuł czasu” (USA), 9 — 10, „Maskarada szpiegów” (angl.), 11—12.

**Дубіны**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów” (jugosł.), 8—12.

**Нараўка**
„Dr Crippen przed sądem” (angl.), „Czarny mustang” (USA), 8—12.

**Нарва**
„Susza” (brazylijski), „Spieniony nurt” (rumuński), 8—12.

**Чыжы**
„Salto” (polski), „Testament Agi” (węgierski), 8—12.

**Дубічы Царкоўныя**
„Kierunek Berlin” (polski), 8—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Браньск**
„Stawka większa niż życie” (polski), 7—12.

**Боцькі**
„Tabliczka marzenia” (polski), „1914—1918” (franc.), 8—12.

**Орля**
„Milcząca gwiazda” (polski), „Tak się zaczęło” (NRD), 8—12.

**Райск**
„Na Rusi” (radz.), „Miłość blondynki” (czeski), 8—12.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Gorące lato” (jugosł.), „Biały pokój” (bułg.), 7—10.

**Міхалова**
„20 godzin” (węgierski), 7—8. „Na szlakach wojennych rzygód” (czeski), 9—10. „Grawitacja” (jugosł.), 11—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Jo-jo” (franc.), 7—8. „Panie inspektorze” (jugosł.), 9—10. „Ostatnie dni” (polski), 11—12.

**Янаў**
„Jej siedem wieczorów” (czeski), 8—12.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Skrytobójcy” (NRD), 7—8. „Nauczyciel z przedmieścia” (angl.), 9—10. „Molo” (czeski), 11—12.

**Мельнік**
„Ludzie w hotelu” (USA), 7—8. „Dziennik młodego małżeństwa” (fiński), 9—10. „7 razy kobieta” (NRD), 11—12.

**Мілейчыцы**
„Zejście do piekła” (polski), 7—8. „Cyrk jedzie” 9—10. „Człowik z M-3” (polski), 11—12.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Fanfan Tulipan” (franc.), 7—8. „273 dni poniżej zera” (polski), 9—10.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861

З нямецкага

# АДНАГАЛОСНА

На перадвыбарчым прафсаюзным сходзе выступілі ўжо восем аратараў, яны разнеслі Цэрбэ ў трэскі. Ён сядзеў цяпер у куце і цяжка дыхаў. Выгляд у яго быў жалосны. Наступіў момант, калі я ўжо не мог маўчаць.

— Наша вялікая памылка, дарагія сябры, — пачаў я памалу і спакойна, — заключаецца ў тым, што ў мінулым годзе мы выбралі старшынёй прафсаюзнай ячэйкі калегу Цэрбэ. Будзем называць рэчы сваім імем. Калега Цэрбэ аказаўся нікудышнім прафсаюзным важаком. З яго такі ж важак, як і з мяне... Ну добра, не буду ўдакладняць. Адным словам, ён не апраўдаў нашага даверу. Шчыра кажучы, год назад я доўга хістаўся, пакуль прагаласаваў за яго. Але я не хачу апраўдацца. Я таксама памыліўся. Сябры, мы паступілі лёгкадумна. Вось усё, што мне хацелася цяпер сказаць аб калегу Цэрбэ.

Перш чым сесці, я яшчэ раз глянуў на Цэрбэ. Пасля майго выступлення небарака, здавалася, пахудзеў кілаграмаў на пяць.

Аб'явілі перапынак, і мы выйшлі ў калідор пакурыць. Да мяне падышоў Густаў:

— Ты добра выступіў. Прынцыпова, па сутнасці. Я думаю запрапанаваць тваю кандыдатуру ў старшыні прафячэйкі, — сказаў ён.

— Ты зглузду з'ехаў! — сказаў я. — Мабыць, ты не ведаеш, што ў мяне па горла работы! Апрача гэтага, я член рэдкалегіі сценгазеты. Не, не, я катэгарычна супраць. А што, калі выбраць цябе, га?

— Паслухай, — сказаў рэзка Густаў, — мая старшая дачка ідзе ў верасні ў школу, жонка чакае дзіцяці. Цяпер я якраз вучуся на курсах шафёраў. На наступны год я збіраюся пайсці ў вячэрнюю школу, трэба рыхтавацца. Так што пра мяне нават не заікайся.

З вялікай цяжкасцю нам удалося наскрабсці трох кандыдатаў.

Але Марцін проста сказаў:

— Супрацоўнічаць у бюро згодны, але ў якасці старшыні — ні ў якім выпадку.

Карл:

— Згодны толькі радавым членам бюро.

Хільда:

— Сябры, у мяне і так многа часу прападае на дарогу. Ну, добра, у бюро яшчэ, хай будзе, згодная, але старшынёй — не і не.

— А ведаеш, — ціха сказаў Густаў — у Паўла Цэрбэ ёсць і свае добрыя бакі.

— Ты мог бы заявіць аб гэтым галасней, — сказаў старшыня сходу, так як было ўжо даволі позна.

Густаў устаў.

— Калега Цэрбэ, — сказаў ён, — мае вядомы вопыт. — І сеў.

З залы панесліся рэплікі:

— Цэрбэ накапіў вопыт за гэты год!

— Ён шчыры!

— Ён яшчэ патраціць выправіць свае памылкі!

— Ён яшчэ зможа дабіцца поспеху!

— Ён усё ж нешта зрабіў!

Твар Паўла Цэрбэ зноў наліўся фарбай. У яго пачырванелі вушы, і ён, поўны збянтэжанасці, глядзеў у падлогу.

Наступіў момант, калі я ўжо не мог маўчаць. Я падняў руку. Мне далі слова.

— Наша вялікая памылка, дарагія сябры, — сказаў я, — заключаецца ў тым, што мы надта рэзка крытыкавалі сёння калегу Цэрбэ. Калі ўважліва і без прадузятасці паглядзець, што зроблена за апошнія два гады, дык мы ўбачым, што калега Цэрбэ нядрэнна папрацаваў. Зусім нядрэнна. Тут выступілі супрацоўнікі, якія гаварылі аб яго памылках. Сябры мае, а хто з нас не памыляецца? (Апладысменты). І калі ўсе мы хоць крышку паможам калегу Цэрбэ, дык, сапраўды, сябры, лепшага старшыні і не прыдумаеш. Я прапаную ўнесці калегу Цэрбэ ў спісак.

Паўль Цэрбэ быў выбраны аднагалосна.

**І. Штабэ**





— Чаму кідаеце ў самаходы каменнямі?!
— Мы кідаем у сабаку!
— А гэта ўжо іншая справа...

Талаваломка



Якім з гэтых васьмі ключоў можна адкрыць замок?

Адказ на заданне з папярэдняга нумара:



### У ЗВЯРЫНЦЫ

У звярынцы здохла малпа. Дырэктар быў у камандзіроўцы, і яму паслалі тэлеграму наступнага зместу:

«Памерла малпа. Чакаем Вас, каб запоўніць яе месца».

### НА ТОЕ

У аддзяленне «хуткай дапамогі» прывішоў падрапаны чалавек. Сястра спытала яго:

— Ваша імя?
— Янка Салавесь.
— Жанаты?
— Ды не. Гэта не жонка — аўтамабільная катастрофа...

### У ВАРАЖБІТКІ

Варажбітка расказвае жанчыне:

— У хуткім часе вас чакае вялікая страта. Падобна на тое, што вы згубіце мужа.

— Але я ўжо два гады як удава!

— Значыць, вы згубіце парасон.

### У ТУРМЕ

У амерыканскай турме «Сінг-Сінг» адзін крымінальнік звяртаецца да другога:

— Эх, да чаго ж мы з жонкай прыемна праводзілі час на беразе мора — бегалі, скакалі, закопвалі адзін аднаго ў беленькі мяккі пясочак... Бадай, калі выйду на свабоду, з'езджу на тое месца і адкапаю яе...

### ЖАНІХ

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— Твой жаніх зельмі некультурны. Пакуль ты гаварыла з ім, ён пазяхнуў разоў пятнаццаць.

— Ён не пазяхаў, а спрабаваў мне адказваць.

### ПРЫХОДЗІЦЬ

Аднойчы звярнуліся да гультая:

— Табе ніколі не прыходзіць у галаву думка пайсці на работу?
— Прыходзіць.
— Ну і што?
— Прыйдзе на мінутку і тут жа адыходзіць.

### ЗМЕНА АДРАСУ

Кватэра п'яніцы Фамы
Была супроць турмы.
І да п'янчугі не дарма
Былі «прыняты меры»:
Цяпер жыве Фама
Супроць сваёй кватэры.

**М. Скрыпка**

### ПАДЛІЧЫЎ

Настаўніца пытаецца ў вучня:

— Скажы, Сярожа, колькі будзе грыбоў, калі пакласці ў кошык дваццаць баравікоў і пятнаццаць сыраежак?

— Поўны кошык, — адказаў Сярожа.

### ПАПРАСІЎ

— Хведар, дай мне сваю сякеру.
— Ты маёй сякерай не будзеш секчы.
— Чаму?
— Вельмі проста: я табе яе не дам.



Прыставаў да прахожых на вуліцы.

### ЗНАЙШОЎ ВЫХАД

— Чаму кніга скаргаў і прапаноў парваная? — пытаецца старшыня ў прадаўшчыка.

— Учора адзін пакупнік абурыўся, што абгортачнай паперы няма — таму кнігу скаргаў папрасіў.

— Ну, дык і даў бы!

— Дык я даў, а ён вырваў дзве старонкі і селядзец загарнуў.



— Вы апошні званіць у міліцыю?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ані Раманюк і Гені Грыгарук з Ляшчын, Гэлены з Чарэмхі, Гені Антасюк, Іркі Пучко, Ніны Нікіцюк, Іркі Харкевіч і Зосі Юрчук з Янава, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п.з.

## „Dopóki życie trwa”

Zaprowadzę Cię w zieloną ciszę,
Coś mi szepniesz o czym dobrze wiem.
Niebo się nad nami zakołysze,
Ziemia nas otuli białym bzem.

Refren:
Dopóki wiosna trwa
Jak długo ty i ja.
Błądzimy razem pośród złotych pól,
Dopóki śpiewa las, a serce bije w nas,
Zapomnij o tym, że przemija czas.

Patrzysz w okno od samego rana
Jakbyś w oknie widział Bóg wie co.
A tam przecież tylko na kasztanach
Najzwyklejsze krople deszczu drżą.

Dopóki jesień trwa... itd.

Patrz dzisiaj biały cud się zdarzył
Pierwszy śnieg na nasze drzewa spadł.
Liczysz ile było kalendarzy,
Myślisz ile jeszcze będzie lat.

Dopóki życie trwa... itd.

Кадр з дэтэктыўнага фільма. Наваселле.



### На дэсерт... кулямёт

Банкет на гэты раз быў у шыкоўнай зале рэстарана вашынгтонскага атэля. Як і ў мінулыя гады, гаварылася шмат прамоў, многа елі і нямала выпілі. А вось у самым канцы — на дэсерт — для гасцей падалі фігурнае марожанае: глазіраваны шакаладным крэмам... буйнакаліберны кулямёт. Гэты незвычайны пачастунак госці сустрэлі гучнымі воклічамі адабрэння: гэта быў традыцыйны банкет для супрацоўнікаў федэральнага бюро расследавання.

### Інтэрв'ю на руках



Рост французскага барца Жана Фера — 216 сантыметраў, а вага — 150 кілаграмаў. Каб узяць у гіганта інтэрв'ю, журналісты давялося забрацца да яго на руку.



Самы лепшы сродак пазбавіцца падхалімаў — гэта астацца без улады.